# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 29-30 (415-416) — Нядзеля, 10 жніўня 1958 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# Блізкаўсходняя лекцыя

Чарговы блізкаўсходні крызіс паволі ліквідуецца. Адпаведна адпружваюцца й людзкія нэрвы, нацягнутыя пагрозай узьнікненьня новай вайны.

У дыпляматычнай ігры наступіла таксама «рэвалярызацыя картаў». Козыры савецкай прапаганды, якія яна атрымала ад Захаду й супраць Захаду ў першай стадыі апошняга блізкаўсходняга крызісу, паступова трацяць сваю вартасьць. Цьверджаньні Хрушчова, што «заходнія імпэрыялісты» рыхтуюць агрэсію супраць Іраку і што быццам-бы навет «гарматы ўжо пачалі грымець», выявіліся беспадстаўнымі й фальшывымі, бо з заходняга боку ня было дадзена ня толькі ніводнага гарматнага, але й вінтовачнага выстралу. (Адзіныя гарматнія стрэлы, якія ў гэтым часе былі чутныя ў раёне Блізкага Ўсходу, даходзілі із-за савецкае мяжы, дзе «прыпадкова» праходзілі «міралюбныя» манэўры савецкага войска.)

Прызнаньне новага ірацкага ўраду заходнімі вялікадзяржавамі, а таксама сябрамі Багдадзкага пакту гаворыць аб тым, што з заходняга боку робяцца ўсе намаганьні, каб апошні блізкаўсходні крызіс вырашыць ня шляхам збройнай інтэрвэнцыі ў нутраныя справы іншых дзяржаваў, але легальным шляхам, шляхам прызнаньня новага палажэньня й пашаны да міжнародных забавязаньняў. Аб гэтым сьветчыць таксама й тое, што прыбыцьцё амэрыканскіх вайсковых аддзелаў у Лібан і ангельскіх у Ёрданію адбылося на запросіны законных урадаў гэтых краінаў і на аснове ранейшых пагадненьняў. Апрача таго, Злучаныя Штаты задэкляравалі неадкладна вывесьці свае войска зь Лібану, калі для аховы незалежнасьці гэтай краіны амэрыканскае войска будзе заменена аддзеламі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў або ўзмоцненай групай назіральнікаў, як гэта прапанавала Японія ў Радзе Бясьпекі. У сувязі з гэтым напрашваецца параўнаньне з захаваньнем бальшавікоў у нядаўніх вугорскіх падзеях, дзе, як ведама, сябры легальнага ўраду Вугоршчыны на чале з Імрэ Надзям, якія пайшлі на дамаганьні паўстаўшага народу, былі вераломна схопленыя савецкімі ворганамі бясьпекі і пазьней патаёмна расстраляныя, а паўстаньне брутальна здушанае савецкімі танкамі наўсуперак некалькім рэзалюцыям Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў і войстрым пратэстам усёй міжнароднай грамадзкасьці.

Ня гледзячы на зусім яўную маральную й прэстыжовую перавагу заходняй палітыкі й дыпляматыі, атрыманую і ў выніку добрасумленных ходаў пры ліквідацыі апошняга крызісу і даведзеную таксама шматлікімі іншымі, ранейшымі фактамі — у змаганьні з фальшывай савецкай прапагандай — прычынай бальшыні сучасных міжнародных канфліктаў — Захад ня выкарыстоўвае сваіх магчымасьцяў: замест ісьці да лягічнага й неабходнага канца, ён затрымоўваецца на поўдарозе.

Ніхто сяньня не запярэчвае таго, што ў аснове тых зрухаў, якія ўспыхіваюць у арабскім сьвеце і ўсьцяж мяняюць палітычнае аблічча гэтага раёну ляжыць імкненьне арабскіх народаў да поўнай нацыянальнай незалежнасьці й надзея, што асягнуўшы гэта ўдасца хутчэй правесьці неабходныя сацыяльныя рэформы. Імкненьні гэтыя зусім законныя. Права на нацыянальную незалежнасьць, сувэрэннасьць і сацыяльны прагрэс ня толькі прызнанае, але ажыцьцяўленьне гэтага права зьяўляецца адным з заданьняў найбольш аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі — Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Заходнія дзяржавы, асабліва Злучаныя Штаты, неаднаразова даказалі, што гэтае права яны ўмеюць шанаваць, у тым ліку і ў адносінах да арабскіх народаў. Прычынай цяперашняга крызісу зьяўляецца фактычна не змаганьне паміж гэтак званым заходнім імпэрыялізмам і арабскім нацыяналізмам, а выкарыстоўваньне нацыянальных пачуцьцяў Арабаў эгіпецкім дыктатарам Насэрам для ажыцьцяўленьня сваёй «панарабскай» імпэрыялістычнай мроі, які пры гэтым апіраецца на падтрымку савецкага кіраўніцтва. Да чаго даводзіць ажыцьцяўленьне фанатычных расавых тэорыяў і вялікадзяржаўніцкіх ідэяў мы мелі магчымасьць пераканацца на прыкладзе гітлераўскай Нямеччыны і расейскага бальшавізму. Апрача таго цяжка гаварыць аб нейкай нацыянальнай, духовай еднасьці ўсіх Арабаў, калі, напрыклад, у адным Іраку, апрача мусульманаў, хрысьціянаў, ёсьць плямёны, якія ад стагодзьдзяў вераць толькі ў чорта. У ваблiччы такой сытуацыі (аблічаючы эканамічныя інтарэсы) палітыка заходніх дзяржаваў і перадусім Злучаных Штатаў, якая базуецца на захаваньні незалежнасьці малых арабскіх народаў і на насьцярожанасьці да імпэрыялістычных імкненьняў Насэра, на наш пагляд зусім правільная.

Выклікае, аднак, зьдзіўленьне непаваротлівасьць Захаду ў змаганьні з сваім галоўным апанэнтам на блізкаўсходняй арэне — Савецкім Саюзам. Ведама, што СССР у сваёй прапагандзе выстаўляе сябе шчырым прыхільнікам і магутным абаронцам нацыянальных інтарэсаў арабскіх народаў. Ведама таксама зь якой прапагандовай сілай бальшавікі выступаюць супраць гэтак званых заходніх імпэрыялістаў, заклікаючы Арабаў да змаганьня за сваю нацыянальную незалежнасьць і сувэрэннасьць. Густая сетка сільных радыястанцыяў, разьмешчаных у Савецкім Саюзе і ў гэтак званых народных дэмакратыях штодзённа й штогадзінна пашырае гэтую прапаганду ў арабскіх мовах. Не сакрэт, што ўся гэтая прапаганда грунтуецца на хвальшы. Аднак, праводжаная ў такіх маштабах і форме, яна свае робіць і вынікі яе ўжо сяньня нельга недацэньваць. І нельга будзе дзівіцца, калі Арабы пачнуць верыць, што ў змаганьні за свае нацыянальныя інтарэсы яны могуць аперціся толькі на Савецкі Саюз, дзе, згодна з бальшавіцкай прапагандай, нацыянальнае пытаньне вырашанае, быццам-бы, «найбольш справядліва». Эвэнтуальны далейшы ход падзеяў прадбачыць ня цяжка...

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Не дагадзілі

Набліжаецца саракагодзьдзе БССР. Разам з гэтым усё больш настырліва патрабуецца ад пісьменьнікаў прысьпешыць складаньне дыфірамбаў сяньняшняму дню дыктатуры з абавязкавымі дасягненьнямі й розквітам шчасьлівага жыцьця. Каб надаць як мага больш публічны розгалас прапагандовай рэкляме, выкананьне яе ўскладаецца найперш на драматургаў і тэатры. Ворган ЦК КПБ «Зьвязда» ужо на пачатку году патрабавальна пісала пра гэта, наракаючы, што такіх спэктакляў «усё яшчэ мала зьўляецца».

Мінула паўгода, а жаданага партыйны заказчык яшчэ ня мае. Зноў заклікі й папярэджаньні. Тэатр імя Купалы падрыхтаваў Макаёнкаву п'есу «Каб людзі ня журыліся». Але спэктакль забаранілі, загадалі перарабіць, а тэарт у тэй-жа «Зьвязьдзе» зьвінавацілі ў тым, што «ня справіўся з асноўнай задачай», «ня выправіў сур'ёзных недахопаў» п'есы.

Чым драматург і тэатр не дагадзілі можна здагадацца з тэксту самое п'есы, якая была надрукаваная ў «Полымі». Макаёнак, як і ягоныя папярэднікі, кіраваўся ў працы ведамай партыйнай пастановай пра ўмацаваньне усё яшчэ неўмацованых калгасаў. Дзея адбываецца якраз у такім зьгібелым калгасе пад гучным назовам «Вольная праца«. Ратуе яго рэклямаваны ў літаратуры стандартны пэрсанаж ў вобразе партыйнага дабраахвотніка зь ліку трыццацёхтысячнікаў. У п'есу ўводзяцца навет хрушчоўскія вынаходы ў выглядзе прапагандовага «калегіяльнага кіраўніцтва» й выратавальнае кукурузы. Але афіцыйная крытыка чамусьці не пачула жаданага «высокага ідэйнага гучаньня».

Відаць, віна драматурга ў паказе пасобных мамэнтаў няпрыемнае жыцьцёвае праўды, навет незважаючы на падпарадкаваньне яе агульнаму ідэялягічна вытрыманаму кірунку. Вось колькі гэткіх дэталяў. Падымаецца заслона. Калгасьніца валачэ на сваіх плячох ламачча, бо не даюць каня прывезьці дроў. Кідае яго з праклёнам: «А каб вы струпянелі...» Людзі ня хочуць працаваць, бо нічога ня маюць з працы ў калгасе, а прысядзібны шматок застаецца найбольшай падмогай. Моладзь па набыцьці сярэдняе асьветы імкнецца разьвітацца з калгасам — «хоць куды, абы ня тут». Прыгадваючы, як апынуўся ў калгасе, селянін кажа: «Задам наперад ішоў. Іду... а сам назад пазіраю: ці выгадаў я, ці не прагадаў». Засталося яно й сёньня, бо «толькі ў кнігах лёгка перарабляюць мужыка», а ў жыцьці застаецца ён зь іншым сваім дазнаньнем: «спытай ты ў мяне цяпер, дзе зад, а дзе перад — не скажу, зблытаю. Закруціўся». У дзею ўлучаецца стары калгасны старшыня — злодзей і п'яніца, пяты з чаргі гэткі, прысланы, як і ягоныя папярэднікі, раённым партыйным кіраўніцтвам. Ёсьць і крыху большы начальнік — «таварыш райплан», які таксама ахвочы пажывіцца з працы калгасьнікаў, хоць і выступае ў ролі пілнавальніка закону.

Дарма, што ўсё гэта здымаецца ў ходзе дзеі, падаецца адно за благое адхіленьне ад партыйнае лініі, якое выпраўляе новы старшыня ды празь якога дасягаецца ідэялягічная зуладнасьць. Навет у такой, здавалася-б вытрыманай, інтэрпрэтацыі рэалістычныя мамэнты прыйшліся не да густу партыйнаму гаспадару. Напэўна не імпануе яму й своеасаблівы дысананс у фінале, у якім з усталяванае традыцыі ўсялякі казённы энтузыязм мае дасягаць ускрайнае бравурнасьці. Заслона ў п'есе ападае пры іншай сытуацыі. Калгасьнік, што вярнуўся з вастрогу, куды трапіў за кошык бульбы, не абдымае ўсімі паважанага новага старшыні калгасу з падзякаю за пераўзгадаваньне, а хапае яго загрудзі.

Ня цяжка прадбачыць, што ў вымаганай новай рэдакцыі п'есы будуць прыглушаныя элемэнты праўды і ўзмоцніцца рэкляма большым вылучэньнем прававерных партыйцаў ды гэтак званага працоўнага энтузыязму калгасьнікаў, іхнае заможнасьці й адданасьці «роднае партыі». Гэткая бутафорнасьць асабліва патрэбная для сьвяточнае дэманстрацыі. Але вымаганьне яе мае й шырэйшы сэнс. Ужываныя Макаёнкам дэталі ўжо ведамыя з твораў іншых аўтараў. Учора яны ня выклікалі гэткіх войстрых пярэчаньняў. Цяпер яны расцэньваюцца за ідэялягічную заганнасьць твору. Якраз яно й зьяўляецца вымоўным сьветчаньнем штораз большага вымаганьня ад пісьменьніка глянцаваньня, упрыгожваньня савецкае рачаіснасьці й забароны найменшае праявы адзнакаў крытычнае думкі.

А. Б-к.

# Канфэрэнцыя Парыскага Блёку

27-га ліпеня адкрылася канфэрэнцыя Парыскага Блёку.

Каля 50 дэлегатаў ад 10 нацыянальных цэнтраў народаў СССР прыбылі ў Мюнхэн, каб узяць удзел у гэтай канфэрэнцыі.

Беларускую дэлегацыю ад імя Рады БНР прадстаўлялі: Прэз. М. Абрамчык, сп. Ул. Бортнік і сп. Ул. Цьвірка. У якасьці гасьцей прыймалі ўдзел ад нас таксама д-р Ст. Станкевіч, сп. С. Кабыш і сп. А. Марговіч.

У першых днях канфэрэнцыі была заслухана справаздача Прэзыдэнта М. Абрамчыка аб дзейнасьці Прэзыдыюму Парыскага Блёку за мінулы год, адбыліся дыскусіі ды была прынятая рэзалюцыя па дакладу Прэз. Абрамчыка.

У рэзалюцыі гэтай канстатавалася, што Прэзыдыюму давялося ў мінулым годзе працаваць у вельмі цяжкіх абставінах. Уступаючаму Прэзыдыюму было прызнанае абсалюторыюм з падзякай.

Далей дэлегаты абменьваліся думкамі што да міжнароднай палітычнай сытуацыі ды ў сувязі з гэтым абмяркоўвалі адпаведны плян працы на наступны год, для будучых выканаўчых ворганаў Парыскага Блёку.

У канцы канфэрэнцыі быў перавыбраны Камітэт Парыскага Блёку ў складзе 10 асобаў (па аднаму прадстаўніку ад кажнага нацыянальнага цэнтру).

У склад Прэзыдыюму ўвайшлі: старшыня — М. Абрамчык, заступнік старшыні — Алі Хан Кантэмір (Паўночны Каўказ), сакратар — С. Тэр-Товмосьян (Арменія), сябра Прэзыдыюму — А. Бэрды-Мурат (Туркестан).

(Гл. камунікат і рэзалюцыю канфэрэнцыі)

# Даганяючы Амэрыку

**(СУМНЫ СТАН СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ БССР)**

24—25 ліпеня сёлета адбыўся пленум ЦК КПБеларусі. На пленуме быў заслуханы даклад першага сакратара ЦК КПБ Мазурава «Аб выніках чэрвеньскага пленуму ЦК КПСС і задачах партыйных арганізацыяў па далейшаму пад'ёму сельскай гаспадаркі рэспублікі».

Мазураў у сваім дакладзе зьвярнуў асаблівую ўвагу на выкананьне тых сацыялістычных забавязаньняў, якія ўзялі й падпісалі г. зв. перадавікі сельскай гаспадаркі на нарадзе ў Менску, на якой прыймаў удзел сам Хрушчоў.

Частка дакладу пад назовам «Настойліва змагацца за выкананьне сацыялістычных забавязаньняў» мае шмат цікавых вестак і лікаў. Так перадавікі ад імя ўсіх калгасьнікаў узяліся атрымаць ураджай збожжавых культураў у калгасах ня менш за 9 цэнтнараў, а ў саўгасах — 10 цэнтнараў. Да канца году перадавікі забавязаліся мець у сярэднім на Беларусі ня менш за 8 кароў, 14 авечак на сто гэктараў зямельнай плошчы, 22 сьвіньні на 100 гэктараў пахаты і 70 галоў птушак на 100 гэктараў пасеваў збожжавых культураў. Не забыта й кукуруза. Зялёнай масы на сілас калгасы павінны сабраць 300 цэнтнараў з аднаго гэктару.

Уся гэтая дзіцячая гульня зь лікамі ня мае ніякага значаньня. Факты сьветчаць, што ніхто ня верыць у паважнасьць гэтых заданьняў: ні тыя перадавікі, што падпісалі забавязаньні, ні калгасьнікі, за якіх забавязаньні былі падпісаныя. Якім чынам змогуць калгасы забясьпечыць ураджай збожжавых культур у памеры 9 цэнтнараў, у той час, калі «Известия» за 21 траўня паведамлялі, што ўраджаі збожжа да 1957 году не перавышалі 5,8 цэнтнараў з гэктару?

У сваім дакладзе Мазураў прывёў некалькі прыкладаў, якія вынікі дала кукуруза ў мінулым годзе. Так у Нясьвіскім раёне калгасы мелі сярэдні ўраджай зялёнай масы толькі 68 цэнтнараў з гэктару. Прычым большая колькасьць кукурузы зусім загінула. У Буда-Кашалёўскім раёне сярэдні ўраджай зялёнай масы на сілас дасягнуў толькі 48 цэнтнараў.

Няма ніякіх сумлеваў, што ня лепшыя вынікі ўраджаю будуць і сёлета. Каб выратаваць 260 тысяч гэктараў кукурузы, Мазураў ня бачыць іншага выхаду, як «правесьці вялізарную арганізацыйную працу, змабілізаваць усе сілы й сяродкі дзеля таго, каб ачысьціць кукурузныя палі ад пустазельля, узрыхліць добра глебу й правесьці падкормку на кукурузных палёх.» Хто можа паверыць, што гэтую працу можна правесьці ў калгасах у жніўні, якраз у часе самага жніва? Ніхто у тым ліку й сам Мазураў. Марна загінула праца, нямэтазгодна выкарыстана найлепшая зямля й угнаеньне. Аб 300 цэнт. з гэктару, выходзіць, і мовы быць ня можа.

Асаблівую трывогу наганяе камуністычнаму кіраўніцтву Беларусі пытаньне разьвіцьця жывёлагадоўлі ў калгасах і саўгасах. На пленуме Мазураў быў прымушаны прызнаць, што «бяскорміца ў зімовы час прывяла да вялікага адыходу буйнай рагатай жывёлы». А між тым ужо другі год, як камуністычныя кіраўнікі канцэнтруюць асаблівую ўвагу на павялічэньні вытворчасьці малака й мяса. Гэтая няўдзячная дзейнасьць выклікана, як вядома, прапановай Хрушчова ў кароткі тэрмін дагнаць і перагнаць Задзіночаныя Штаты Амэрыкі ў вытворчасьці малака й мяса на душу жыхарства.

Выглядае так, быццам бы ўсе працоўныя Савецкага Саюзу ўжо поўнасьцяй забясьпечаныя мясамалочнымі прадуктамі. Застаецца толькі дагнаць і перагнаць капіталістычную Амэрыку, каб яшчэ шырэй разгарнуць прапаганду аб перавагах камуністычнай сыстэмы над краінамі вольнага сьвету.

Пасьля абвешчаньня хрушчоўскай прапановы савецкая прэса, кіраўнікі партыі і ўраду нязьменна й упарта запэўніваюць аб удачах гэтай кампаніі. Навет цэнтральнае статыстычнае кіраўніцтва СССР у дадзеных аб выкананьні пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі за 1957 год адзначыла, што ў вытворчасьці малака Савецкі Саюз адстае ад ЗША толькі на 5 працэнтаў. А між тым падлікі вытворчасьці малака за першае паўгодзьдзе 1958 г., паводля паведамленьня Мазурава, сьветчаць, што ў саўгасах Беларусі надоена на карову ў сярэднім 1 204 кіляграмы, г. зн. — навет на 182 кілеграмы менш, чымся летась.

Аб разьвіцьці калгаснай жывёлагадоўлі сьветчаць факты прыведзеныя таксама Мазуравам на тым-жа пленуме. І так у калгасе імя Дмітрава Магілёўскага раёну «на сто гэктараў сельскагаспадарчых зямель прыпадае толькі пяць кароў, але яны зусім схудзеўшыя. Паша дрэнная, а на падкормку каровам даецца ў суткі ня больш васьмі кіляграмаў балотнае асакі. У хлявох няма кармушак і корм кідаецца проста пад ногі жывёле — у гной. За шэсьць месяцаў ад каровы атрымана ў гэтым калгасе толькі па 645 кіляграмаў малака — на 200 кіляграмаў менш, чым за той-жа час мінулага году». Мазураў прызнаўся, што і ў іншых калгасах становішча ня лепшае. «Каб вырашыць задачу — дагнаць ЗША ў вытворчасьці малака, масла й мяса на душу жыхарства, вытворчасьць мяса ў калгасах і саўгасах павінна быць павялічана ў 4,9 разоў і малака ў 2,9 разоў» — адзначыў Мазураў у сваім дакладзе. Вось-жа можна й разважыць, колькі патрэбна яшчэ часу, каб калгасы й саўгасы Беларусі дасягнулі такога становішча, пры якім быў-бы выключаны адыход жывёлы зімою з прычыны недахопу кармоў.

Як-жа калгасы й саўгасы Беларусі даганяюць ЗША ў вытворчасьці мяса на душу жыхарства? Аб гэтым яскрава сьветчыць пастанова ЦК КПБ з 20 лі-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# КАМУНІКАТ

## КАНФЭРЭНЦЫІ ЛІГІ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ НАРОДАЎ СССР (ПАРЫСКАГА БЛЁКУ)

27-31 ліпеня сёлета ў Мюнхэне (Нямеччына) адбылася чарговая канфэрэнцыя Лігі Вызваленьня Народаў СССР, у якой прыймалі ўдзел упаўнаважаныя прадстаўнікі ад 10-ёх нацыянальных цэнтраў: Армянаў, Азербайджанцаў, Беларусаў, Грузінаў, Ідэль-Уральцаў, Казакаў, Крымскіх Татараў, Паўночнакаўказцаў, Туркестанцаў і Украінцаў, якія прыбылі з розных краінаў Эўропы, Сярэдняга Ўсходу й Амэрыкі ў колькасьці 50 асобаў.

На канфэрэнцыі апрача, пытаньняў нутрана-арганізацыйных, падрабязна абмяркоўвалася палажэньне народаў Савецкага Саюзу, нацыянальная й вонкавая палітыка Крамля ды сучасная агульная сытуацыя ў сьвеце.

Канфэрэнцыя прайшла ў атмасфэры поўнай дружбы, узаемнага зразуменьня й салідарнасьці.

Было прынята рад пастановаў дзеля ўзмацненьня дзейнасьці Лігі ў змаганьні за вызваленьне сваіх народаў ад бальшавіцкага прыгнёту, а таксама рэзалюцыя, у якой канфэрэнцыя зьвяртаецца да вольнага сьвету аб неабходнасьці ўдзяленьня зь яго боку большай увагі й большага садзейнічаньня народам Савецкага Саюзу ў іх нацыянальна-вызвольным змаганьні.

# Блізкаўсходняя лекцыя

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

Мы ня думаем ,каб адказныя дзеячы Захаду гэтага не разумелі. Аднак, як мы ўжо зазначылі, акцыя супрацьдзеяньня гэтай прапагандзе, як і антыкамуністычная прапаганда наагул, стаіць на Захадзе ніжэй усякай крытыкі. У кажным выпадку яна не адпавядае паважнасьці таго заданьня, якое, у сілу абставінаў, яна павінна выконваць. У той час, як савецкая прапаганда спрытна выкарыстоўвае нацыянальны мамэнт у змаганьні зь інтарэсамі Захаду, Захад ня толькі абмінае яго ў сваёй прапагандзе, накіраванай у Савецкі Саюз, але навет не прыкладае асаблівага высілку, каб на прыкладзе савецкай рэчаіснасьці выкрыць фальшывасьць і падступнасьць гэтай прапаганды перад арабскімі і іншымі народамі, якія могуць браць яе за чыстую манэту.

Хіба-ж ясна, што Савецкі Саюз — мадэрная бальшавіцка-расейская імпэрыя, якая паўстала пры помачы ашуканства і збройных падбояў народаў, такім-жа спосабам пашырала свае межы й пры першай нагодзе гатовая праглынуць новую ахвяру. У Савецкім Саюзе былі брутальна здушаныя і далей у корні здушваюцца ўсе імкненьні да нацыянальна-палітычнай, эканамічнай і культурнай незалежнасьці нерасейскіх народаў. Народы гэтыя сталіся аб'ектам сыстэматычнай дэнацыяналізацыі й русыфікацыі, а некаторыя былі проста фізычна вынішчаныя. Хіба можна больш наглядна й пераканаўча даказаць фальшывасьць савецкай нацыянальнай прапаганды, як на неаспрэчных фактах з жыцьця падсавецкіх народаў?

Чаму гэтыя аргуманты не выкарыстоўваюцца? Хто гэтаму перашкаджае?

Ці ня варта было-б адказным за гэтую справу бліжэй прыглядзецца да розных «экспэртаў» і «дараднікаў» у пытаньнях стратэгіі халоднай вайны? Апошняя блізкаўсходняя лекцыя гаворыць, што — варта!

**Ю. Д.**

# Даганяючы Амэрыку

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

ліпеня г. г. пад назовам «Аб выкананьні вытворчасьці й нарыхтовак мяса ў калгасах і саўгасах рэспублікі ў першым паўгодзьдзі 1958 году».

У гэтай пастанове ЦК КПБ абвінавачвае партыйных і савецкіх кіраўнікоў ня мясцох, што яны ня здолелі арганізаваць у калгасах і саўгасах адкорму сьвіней і буйнай рагатай жывёлы. У выніку гэтай неарганізаванасьці калгасы й саўгасы ў першым паўгодзьдзі вельмі мала выпрадукавалі мяса. У пастанове адзначана, што па шэрагу раёнаў пры адкорме сьвіней у калгасах сярэднясутачны прырост вагі не перавышае 190—220 грамаў на галаву. Калгасы наагул ня дбаюць аб павялічэньні пагалоўя сьвіней і ў вялікай колькасьці прадаюць іх прыватна. Так за шэсьць месяцаў калгасы Менскай вобласьці прадалі 19 тысяч маладняку, Магілеўскай — 18 тысяч і Гомельскай — 16 тысяч. Апрача гэтага у калгасах і саўгасах выяўлена шмат выпадкаў паданьня дарослых сьвіней.

Аднак самы сумны й канфузны факт, як адзначана ў пастанове ЦК КПБ, гэта тое, што ў чэрвені бягучага году пагалоўе буйнай рагатай жывёлы, сьвіней і авечак у калгасах і саўгасах рэспублікі зьменшылася.

Мазураў на пленуме зь незадаваленьнем адзначыў, што паводля сацыялістычнага забавязаньня калгасы й саўгасы Беларусі павінны зьняць з адкорму 1 мільён 200 тысяч сьвіней, а за першае паўгодзьдзе зьнялі 335 тысяч галоў, або каля 28 працэнтаў гадавога пляну.

Пададзеныя Мазуравам лікі не адлюстроўваюць запраўднае колькасьці мяса, якое здалі калгасы й саўгасы дзяржаве. За колькаснымі паказьнікамі скрываецца малавартаснасьць гэтай колькасьці. І так, прыкладам, у Гарадоцкім раёне сярэдняя вага зьнятых з адкорму сьвіней не перавышае 59 кілаграмаў, у Расонскім раёне — 62, Лёзьненскім — 63, Дрысенскім і Ельскім — 68 кілаграмаў жывой вагі. Можна сабе ўявіць колькі сала й мяса можна атрымаць з трохпудовага падсьвінака.

Няма ўдачаў і ў разьвіцьці гадоўлі авечак. «Гэтая галіна жывёлагадоўлі ў калгасах скарачаецца. Штогоду паніжаецца прыплод авечак і якасьць воўны», — з прыкрасьцяй адзначыў Мазураў.

Не абойдзена маўчаньнем і птушкагадоўля. Вось хоць-бы ўзяць калгасы Маладэчанскай вобласьці. Перадавікі сельскай гаспадаркі падпісаліся, што яны вырасьцяць у гэтым годзе 748 тысяч птушак, у тым ліку 604 тысячы вадаплываючых птушак. А вынікі? На 1-га ліпеня ў Маладэчанскай вобласьці налічваецца толькі 64,8 тысяч хатніх птушак. Зразумела-ж, у другой палове году ня выводзяць куранятаў. А між тым, як адзначыў Мазураў, «за шэсьць месяцаў гэтага году ў калгасах рэспублікі атрымана ў сярэднім на адну нясушку толькі 30 яек, на 7 яек менш чымся ў мінулым годзе». Да гэтай ілюстрацыі паясьненьняў ня трэба.

Як ужо ўспаміналася, сёлета ў студзені ў Менску адбылася нарада перадавікоў сельскае гаспадаркі з удзелам самога Хрушчова. Хрушчоў прыехаў у Менск із шматлікімі падарункамі. Ён прывёз пастанову Вярхоўнага Савету СССР аб узнагародзе 5 тысячаў перадавікоў сельскай гаспадаркі. Праўда, у ліку гэтых перадавікоў апынуўся ўвесь склад камуністычных і савецкіх кіраўнікоў БССР. На нарадзе перадавікі падпісалі сацыялістычнае забавязаньне аб павялічэньні вытворчасьці сельскагаспадарчых прадуктаў ува ўсіх галінах калгасна-саўгаснай гаспадаркі. Як-жа на практыцы адбылося гэтае «павялічэньне» — красамоўна паказваюць прыведзеныя намі факты й афіцыяльныя савецкія лікі. Усё гэта сьветчыць, што няма ніякай надзеі дагнаць, а тымбольш перагнаць ЗША ў вытворчасьці малака, масла й мяса на душу жыхарства.

**В. Б.**

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## АБ МІЖНАРОДНЫМ ПАЛАЖЭНЬНІ,ПРЫНЯТАЯ НА КАНФЭРЭНЦЫІ ЛІГІ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ НАРОДАЎ СССР (ПАРЫСКАГА БЛЁКУ), ШТО АДБЫЛАСЯЎ МЮНХЭНЕ 27-31 ЛІПЕНЯ 1958 ГОДУ.

26-27. 7. 1956 г. Ліга Вызваленьня Народаў Савецкага Саюзу сабраўшыся на канфэрэнцыю і абмеркаваўшы агульнае палажэньне ў сьвеце прыняла адпаведную рэзалюцыю, у якой, між іншым, гаварылася наступнае:

«У перажываны мамэнт у цэнтры «бацькаўскіх» клопатаў Крамля знаходзіцца Эўропа. Усе стараньні савецкай дыпляматыі накіраваны да вываду Эўропы з агульнай лініі заходняга сьвету і, гэтым самым, ізаляцыі Задзіночаных Штатаў Амэрыкі . . .»

...Заход у тыл натхняльнікаў Багдадзкага пакту шляхам крывадушнага вешчаньня аб законных асьпірацыях арабскага кантынэнту накіраваны да зрыву Багдадзкага й Атлянтычнага пактаў... Лёсы Эўропы, магчыма, наважваюцца на паўдзённым узьбярэжжы Сярodзeмнага мора . . .»

(З рэзалюцыі, прынятай на канфэрэнцыі ЛВНСС 26-28. 7. 1956).

Камэнтарамі да вышэй сказанага зьяўляюцца падзеі, што разыграліся на вачох на Блізкім і Сярэднім Усходзе; бязь ніводнага стрэлу й бяз «добраахвотнікаў» перамогу на першым этапе атрымала Масква.

З мэтай замацаваньня гэтай перамогі й для далейшага руху на шляхох да заваёвы сьвету пры дапамозе выпрактыкаванага аркестраваньня прапаганды Хрушчоў пастараецца ўсякімі магчымасьцямі выкарыстаць ім-жа запраектаваную «канфэрэнцыю на высокім узроўні», як сьветавую трыбуну.

Пры пануючым у сьвеце настрою Масква бяскарна прадаўжае весьці змаганьне нэрваў, пагражаючы сьвету атамнай і балістычнай зброяй, у той-жа час прыбіраючыся ў тогу міралюбцы. Зразумела, што не для ўсеагульнага раззбраеньня й не для ўстанаўленьня міру ўва ўсім сьвеце склікае Хрушчоў кіраўнікоў вольнай часткі сьвету на канфэрэнцыю. Можна пабойвацца, што скліканая ў гэтых умовах канфэрэнцыя, выявіцца ўва ўсіх дачыненьнях выйгрышным для ворага чалавецтва прадпрыемствам, запраўднай канфэрэнцыяй «на вышэйшым узроўні псыхалягічнага змаганьня». Яшчэ адна прадметная лекцыя ўпішацца ў сэрыю іншых для навукі чалавецтву!

Можна з упэўненасьцяй цьвердзіць, што пад прыкрыцьцём гэтага чарговага дыпляматычнага наступу на вонкавым фроньце скрываюцца нутраныя цяжкасьці якія адлюстроўваюць недахопы й вострыя балячкі з адпаведнай рэакцыяй і ўпорыстым супрацівам народаў Савецкага Саюзу.

Праведзеная ў 1957 годзе г. зв. «дэцэнтралізацыя прамысловасьці» з захаваньнем вышэйшага кіраўніцтва й цэнтралізаванай кантролі ў Маскве не дае чаканых вынікаў: тэмпы выконваньня плянаў Дзяржпляну паранейшаму застаюцца павольнымі. Наступіўшыя-ж затым іншыя «рэформы ў сельскай гаспадарцы, закрашаныя «лібэралізмам» у сацыяльным пляне, — усё гэта разам упіраецца ў неразьвязальную для рэжыму ў гэтых умовах праблему збольшаньня вытворчасьці, збольшаньня прадуктыўнасьці.

Ствараецца ўражаньне, што ў драматычных падзеях Блізкага Ўсходу аўтакратам Масквы ўдалося, быццам, вырваць з рук дэмакратычнага Захаду сьцяг, на якім напісана: свабода й вызваленьне народаў. Нікому, зразумела, ня тайніца, якія глыбокія матар'яльныя інтарэсы хаваюцца ў дадзеным выпадку пад гэтай вострай зброяй псыхалягічнага змаганьня. Парадокс гісторыі: жандары з апошняй у сьвеце каляніяльнай імпэрыі выступаюць у ролі «вызвольнікаў» прыгнечаных і абяздоленых народаў!

Конавая памылка дэмакратычнага Захаду была магчыма ў тым, што, празьмерна праймаючыся захаваньнем супакою і ўстойлівасьці ў гэтай частцы сьвету, ён не дацаніў фактару народных і нацыянальных асьпірацыяў. Заданьне вольнага сьвету цяпер, покуль яшчэ ня позна, — гэта ўзгодненьне свае стратэгіі з вымогамі часу (свабода й вызваленьне прыгнечаных народаў) і гэтым самым наважанае, усімі даступнымі й магчымымі сяродкамі, сарваньне маскі з падступнага ворага, гэтага душыцеля й прыгнятальніка народаў у неабсяжнай імпэрыі.

Магутнай-жа зброяй заходняга сьвету ў змаганьні із савецкім імпэрылізмам зьяўляецца якраз адзначаная вышэй ідэя, ідэя эпохі, ідэя вызваленьня народаў Савецкага Саюзу. У дачыненьні да апошніх новы рафінаваны варыянт каляніяльнай палітыкі Масквы — гэта нішто іншае, як запраўдны генасыд. Мэта, якая пры гэтым упэрыста й настойліва ажыцьцяўляецца, зводзіцца да дэнацыяналізацыі, да дэпэрсоніфікацыі й да ствареньня г. зв. «савецкага чалавека», чалавека бяз бацькаўшчыны й роднай зямлі, без аблічча й бяз душы, запраўднага робата, гэтага будаўніка плянэтарнай камуністычнай імпэрыі.

Ці-ж усе мы, аглушаныя гістэрычнымі крыкамі на тым баку зялезнае заслоны аб «каляніялізьме», не адчуваем, што пад грукат бубнаў запраўдная каляніяльная дзяржава зь нязвычайным дынамізмам стукаецца ў дзьверы Эўропы й Азіі, Афрыкі й Амэрыкі. На скрыжаваньні кантынэнтаў — на Блізкім Усходзе — яна атрымала магчымасьць пашырыць свае ядавітыя шчупальцы ўва ўсіх кірунках.

І так, Масква наступае, будзе наступаць. Яе трэба спыніць. Час не чакае. Супраць адзінай, пасьлядоўнай канцэпцыі й стратэгіі сьцюдзёнай вайны вольны сьвет, на чале з Заатлянтычнай дэмакратыяй, павінен паставіць стратэгію й тактыку, што выцякае із самой прыроды дэмакратыі; у прыватнасьці — стратэгію, што апіраецца на дэвізе й лёзунгу, ськіваваным да ўсіх народаў Савецкага Саюзу, да ўсіх запалоненых народаў савецкай імпэрыі: за вашу свабоду й незалежнасьць!

Народы-ж, што знаходзяцца ў савецкай турме, даўно ўжо ўлучыліся ў вагульны вызвольны рух супраць маскоўскае тыраніі, неаднаразова выяўляючы сваю нязломную волю да свабоды, дэмакратыі й незалежнасьці. Маральная-ж падтрымка й актыўныя сымпатыі вольнага сьвету павінны зьявіцца ў канчатковым выніку гарантыяй ажыцьцяўленьня запаветных нацыянальных асьпірацыяў гэтых народаў.

## *У паняволенай Беларусі*

### ВЫЯЎЛЕНЬНЕ ПОМНІКАЎ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

(БЕЛТА) Інстытут моваведы імя Якуба Коласа зьбірае рэдкія помнікі беларускага пісьменства. Шматлікія зь іх былі знойдзеныя ў бібліятэках і архівах Масквы, Рыгі, Вільні й Ленінграду.

Значную важнасьць маюць рукапісныя граматы XIII—XV стагодзьдзяў. Гэта найбольш старыя дакуманты, якія дазваляюць дасьледваць гісторыю разьвіцьця мовы. Нядаўна была атрымана фатакопія яшчэ аднэй старыннай граматы. Яна датычыць 1498 году.

Цяпер інстытут мае ў форме фатакопіяў і мікрафільмаў усе выданьні бела-

(Заканчэньне на 3-цяй бачыне)

**Проф. Др. Я. Станкевіч** 5)

# Гісторыя Беларусі
## і расейская чорная сотня

Усюдых сярод сялянскае люднасьці была маса вымерлых і забітых. Шмат сялян бадзялася па лясох і хавалася ў балотах і гушчарох . . . Калі ў сьцязе раёнаў і захавалася яшчэ сяляскае жыхарства, то ў яго «не было ни лошадей, ни животины, а у многих . . . и хлеба нет, бродят по миру». Капітан царскіх войскаў паведамляў маскоўскаму вайводзе ў Менску, што «в Минском уезде во многих местах и селах и деревнях ржи и ярового хлеба у крестян нет».

А тымчасам царскія вайводы . . . вымагалі ад сялян бязупыннай даставы збожжа, пошару, жывёлы й коні. Побач з гэтым адбываліся бязупынныя грабяжы сялянства . . .

Асабліва ў цяжкім палажэньню апынулася сялянская людасьць у мамэнт адступленьня маскоўскіх войскаў . . .

Апынуўшыся ў цяжкім палажэньню, маскоўскія войскі пры сваім адступленьню не шчадзілі ўжо нічога. За найважнейшую прычыну свайго паражэньня яны ўважалі зраду ўкраінскіх казакоў і сялянскія непарадкі (запраўды — сялянскую партызанскую вайну супроць Маскоўцаў, але гэтага аўтар пабаяўся сказаць — Я. С.). Дзеля таго яны пры сваім адступленьню, як азьвярэлыя, накідаюцца на сялянскую людасьць, грамяць і паляць сёлы і нішчаць на сваёй дарозе ўсё, што сустракаецца» (б. 197—199).

### ЦІ БЫЛА ЗАБАРОНА ПІСАЦЬ У ЎРАДАХ ПАБЕЛАРУСКУ

У расейскай і польскай літаратуры пашырана цьверджаньне, што ў 1696 г. было забаронена пісаць у ўрадах пабеларуску і загадана пісаць папольску. Аказваецца, адылі, што гэтак ня было. На канфэрэнцыі ў Варшаве 29-га жніўня 1696 г. разглядаліся, між іншага, справы, датыкаючыя судовых трыбуналаў і была зроблена гэткая пастанова:

«Пісар, адылі, земскага вайводзкага суду, дзе будуць адбывацца Галоўныя трыбунальскія суды, зрабіўшы судовы запіс, застанецца на месцу, але галасаваць ня мае ў справах, належачых да суду. Ён мае толькі справы, разгляданыя ў коле (судзьдзяў) і разьвязаныя бальшынёй галасоў, запісаваць папольску, а не парускy»[36].

Вось-жа пастанова гэтая датыкаецца толькі трыбунальскіх судоў, а ня ўрадаў наагул.

Апрача таго ў «Пактах канвэнтах» новаабраны кароль Фрыдрых Аўгуст заявіў:

«У справах і пасольствах ад Рэчы Паспалітай мы, згодна з даўнымі законамі, ня будзем карыстацца сваёй пакаёвай пячаткаю або сыгнэтам, і абяцаем выдаваць усе лісты, справы і публічныя легацыі толькі ў мове польскай і лацінскай, а ня іншай»[37]

Гэтае абавязаньне караля датыкаецца справаў дыпляматычных і іншых, выходзячых ад самога караля, але ў ім няма мовы пра ўрады Літвы. Апрача гэтага, дзеля таго, што ў вабодвых прыпадках не названа Вялікае Княства Літоўскае, можна думаць, што пастанова й абавязаньне мелі наўвеце толькі ўкраінскія землі Польшчы.

Гэтта на месцы будзе зацеміць і пра палянізацыю наагул. Як ведама, у 2-ой палавіне XVII стг. і асабліва ў стагодзьдзю XVIII таварыскай і хатняй моваю беларускага вялікага панства сталася мова польская, але патрыётамі свайго народу і свайго гаспадарства яны заставаліся. Маем тут дачыненьне ня з утратаю нацыянальнага сьвядом'я але з утратаю сьвядом'я моўнага, як гэта сталася з Жыдамі яшчэ да Хрыста і шмат пасьлей зь Ірляндцамі. Як ведама, толькі малы працэнт Ірляндцаў знае ірляндзкую мову, а ўсе іншыя гавораць паангельску, але ўсе — ірляндзкія патрыёты. Што да драбнейшага панства і засьценкавае шляхты, дык яны заставаліся пры сваёй моўнай беларусшчыне і палячыліся за расейскага часу ў XIX і XX стагодзьдзях з прычыны галоўна тых умоваў, каторыя стварыла ў Беларусі Расея.

### БЕЛАРУСЬ ПАД РАСЕЯЙ

Расейскія чарнасоценцы цьвердзяць, што ў Беларусі, прылучанай у канцы XVIII — пачатку XIX стг. да Расеі, настала шмат лепшае жыцьцё, чымся было дагэнуль. Якое гэта было паляпшэньне, я паказаў у «Савецк. хвальшаваньні» (б. 134—142). Гэтта крышку дадам.

Разглядаючы, ад даўных часоў, дачыненьні паміж клясаю ралейнікаў і класаю землясобсьнікаў у Беларусі, праф. В. Пічэта сьцьвярджае, што «Гэтыя клясавыя супярэчнасьці неаднойчы прыводзілі да стырчкі абедзьвюх клясаў на фоне земляных дачыненьняў, да тае стырчкі, што праявілася асабліва войстра спачатку ў пару 1861 г., потым у пару рэвалюцыі 1905 г. і, наапошку, у пару лютаўскае рэвалюцыі»[38]. Вось-жа найцяжэй беларускаму сялянству жылося пад Расеяй.

Я зьвярну ўвагу на адно вельмі характарыстычнае сьветчаньне мовы пра страшнае пагаршэньне долі беларускага сялянства, калі Беларусь забрала Расея. Мова рэдчас бывае гістарычнай сьветкаю і тады ёсьць сьветкаю найаб'ектыўнейшай. Я маю наўвеце зьмену ў значэньню слова «старац». За незалежнага беларускага гаспадарства «сялянскі самаўрад у Беларусі займаў выдатнае месца». Воласьць была найвышшай тэрытарыяльнай і адміністрацыйна-фінансавай адзінкаю ў самаўрадавым жыцьці сялянства Беларусі. На гэтай тэрыторыі жылі сяляне, мяшчане і баяры. На чале гэтай «самаўрадавай» адзінкі уставічным прадстаўніком і «ахоўнікам інтарэсаў валаснога самаўраду» быў галава яе — старац. «Выбары старца рабіліся прадстаўнікамі сёлаў — старшымі мужамі, добрымі людзьмі, каторыя зьбіраліся на валасны сход, веча і выносілі там рассудак пра абраньне старца»[39]. Але ў XIX стг. старцамі ў Беларусі ўжо звалі ўбогіх. Гэтак з упадкам палажэньня беларускага сялянства ўпала і значэньне назову ягоных лепшых прадстаўнікоў. Цяпер старыя сяляне часта ня мелі з чаго жыць і мусілі з хатулём на плячох хадзіць прасіць лусты хлеба — «старцаваць».

Агульна ведама, што ў 1864 г. расейскі ўрад забараніў беларускі друк. З гэтым згаджаюцца нат савецкія аўтары[40]. Але расейская чорная сотня гэтаму пярэчыць. Яны заяўляюць, што быў забаронены толькі беларускі друк лацініцаю і што гэта было зроблена добра. Гэтаму пярэчаць такія факты, як той, што ў 1902 г. «Вязанка» Ів. Няслухоўскага прайшла ў Пецярбурзе як баўгарскі зборнік вершаў.

Расейскія чарнасоценцы цьвердзяць, што «Палякі апякаваліся беларускім нацыянальным рухам». Як довад, яны прыводзяць, што, да 1905 г., бальшыня беларускіх кніжак друкава-

# У абарону „Успамінаў“ В. Рагулі

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

Станкевіч пасьля паславаньня атрымаў ад польскага ўраду працу ў Варшаўскім Унівэрсытэце).

Тое, што В. Рагуля ў «Успамінах» ня піша шмат аб дзейнасьці «Сялянскага Саюзу», служыць за падставу Я. Станкевічу называць гэтую арганізацыю «блізу супоўнай фікцыяй». Гэтая арганізацыя, аднак, выдавала газэту «Сялянская ніва». Ведаю, што ад імя беларускага сялянства «Сялянскі Саюз» складаў мэмуары ў Лігу Нацыяў у справе беларускае нацыянальнае мяншыні ў Польшчы, а таксама прымаў удзел у выдаваньні „Natio“ — інфармацыйнага бюлетэню, што выходзіў у ангельскай, францускай і нямецкай мовах, з мэтаю інфармаваньня заходняга сьвету аб палажэньні нацыянальных мяншыняў у Польшчы.

«Чытаючы Рагулевы «Успаміны» пра самога сябе, у людзей можа зрабіцца даймо, калі не пра дзеяльнасьць ягоную, то прынамся пра дзейнасьць» — піша Я. Станкевіч.

У «Ўспамінах» знайходзім якраз шмат фактаў з дзейнасьці В. Рагулі: перадвыбарчая агітацыя ў 1922 г. з паданьнем мясцовасьцяў дзе ён выступаў, соймавыя выступленьні (18 прамоваў у абароне беларускіх інтарэсаў), удзел ад Беларускага Пасольскага Клюбу ў працы Зямельнае Камісіі ў сойме, старшынства ў Клюбе (хіба бязьдзейнага Клюб ня выбраў-бы за старшыню?), змаганьне з гаспадарчымі непарадкамі ў Навагрудзкім польскім самаурадзе і г. д. Усё гэта, сп. Я. Станкевіч, факты, а факты — рэч упартая. Іх можна замоўчваць, як гэта Вы робіце, але іх не магчыма запярэчыць. З усяго гэтага Я. Станкевіч прызнае толькі, што ў перадвыбарчай агітацыі ў 1922 г. В. Рагуля «... карысна выдзяляецца сярод бальшыні іншых кандыдатаў але ў гэтым ня гэтулькі ягоная заслуга, колькі віна гэтае бальшыні». Добрае-ж пасьветчаньне выстаўляе Я. Станкевіч беларускаму адраджэнскаму руху аб якім так крыклі ва дэклямуе ён у пачатку свайго артыкулу.

Пішучы свае «Ўспаміны» 30 год пазьней і толькі з памяці, ня маючы архіўных матар'ялаў, В. Рагуля мог памыліцца адносячы арышты грамадоўцаў на Каляды 1925 г., але і Я. Станкевіч не дакладны калі кажа, што яны адбыліся Калядамі 1926 г. у запраўднасьці арышты грамадоўцаў адбыліся 14-га студзеня 1927 г. зн. у тыдзень пасьля праваслаўных і ў 3 тыдні пасьля каталіцкіх Калядаў.

Адносна Вайсковае Камісіі, якую В. Рагуля памылкова называе Найвышэйшаю Вайсковаю Радаю ў «Успамінах» гаворыцца: «Частка Ўраду БНР пераехала спачатку ў Вільню, адтуль у Коўню, а потым у Чэскую Прагу, дзе і прабывала да канца другой сусьветнай вайны. Другая частка, на чале з А. Луцкевічам, зрабіла ўгоду з Палякамі, ды пад іх крыльцам арганізавала ў Лодзі Найвышэйшую Вайсковую Раду. Яна праіснавала да канца польска-савецкай вайны.» («Успаміны» бал. 12.)

Нападаючы на В. Рагулю за недакладнасьці ў назове і месцы арганізаваньня Камісіі, Я. Станкевіч, аднак, ня можа запярэчыць галоўнага — палянафільскасьці гэтае арганізацыі, бо, як ён сам кажа: «Пачала яна арганізавацца ў Вільні і скончыла ў Менску ў 1919 г. З наступленьнем бальшавікоў у ліпні 1920 г. Камісія пераехала ў Лодзь.» («Б-на», № 19 [405].) Я дадам, што наступалі бальшавікі супраць Палякаў, якія былі ў Менску ў час арганізаваньня Камісіі (дзіўнае супаданьне, ці-ж ня праўда?), якая й выехала ў легіянэрскім абозе ў Лодзь. Можа А. Луцкевіч да вышэйменаванае Камісіі афіцыйна й не належаў, але хіба Я. Станкевічу ведама, што А. Луцкевіч у гэтым часе рэпрэзэнтаваў палянафільскую плынь ува Ўрадзе БНР. Значыць ня беспадстаўны закід В. Рагулі, што А. Луцкевіч у гэтым часе быў палянафілам.

Няпрыхільныя выказваньні В. Рагулі ў «Успамінах» аб захоўваньні А. Луцкевіча ў Заходняй Беларусі Я. Станкевіч адносіць на рахунак «асабістай крыўды Рагулевай» да А. Луцкевіча.

Тымчасам сам Я. Станкевіч удзел А. Луцкевіча ў Грамадзе называе абмылкай. Адносна пераходу А. Луцкевіча ад Грамады да польскай угоды ў пэрыяд працэсу Грамады Я. Станкевіч кажа: «Ані ў часе суду, ані пасьля яго ніякіх пазнакаў гэтага (пераходу да польскай угоды — А. Стагановіч) у А. Луцкевіча ня было відаць». Гэтак піша Я. Станкевіч у «На бакох «Успамінаў» В. Рагулі» ў 1958 г. Але 19-га жнівеня 1956 г. у № 34 (316) «Бацькаўшчыны» ён пісаў інакчай: «Астроўскі, Луцкевіч і Коўш дзеля таго былі апраўданыя польскім судом, што ў турме далі згоду на супрацоўніцтва з польскім урадам». Пытаньне: калі Я. Станкевіч піша праўду?

Далей. У № 49 (331) «Бацькаўшчыны» з дня 2-га сьнежня 1956 г., гаворачы аб апраўданых у працэсе Грамады, Тарас Струг піша: «Што-ж да апраўданых, дык ня толькі беларускае грамадзтва, але Жыды ды навет частка Палякаў, праз доўгія гады пры сустрэчы ня віталася зь імі, лічылі нягодным учынкам, асабліва да Астроўскага. Як факт, жонка аднаго зь іх не магла перажыць гэтае ганьбы і адабрала сабе жыцьцё.» (Як ведама, у той час пазбавіла сябе жыцьця жонка А. Луцкевіча.)

Адносна Цэнтрасаюзу які В. Рагуля ў «Успамінах» акрэсьліў як угадовую арганізацыю, Я. Станкевіч піша: «Ня Луцкевіч, але Р. Астроўскі пайшоў на польскую работу па ліквідацыі Грамады. Шкода, што А. Луцкевіч не адразу разабраўся ў Астроўскім, будучы зь ім у Цэнтрасаюзе, (ізноў абмыліўся Луцкевіч? Ці можа якраз выконваў данае Палякам у турме забавязаньне? — А. Стагановіч), але ўсё-ж такі разабраўся і разам зь некаторымі іншымі арганізаваў грамадзкі суд над Астроўскім». («Ба-на», № 19 (405.)

Такім чынам бачым, што ацэнка В. Рагулі ў гэтай справе супадае із становішчам іншых, а ў тым ліку і Я. Станкевіча, хоць ён і стараецца відавочныя факты прыкрыць рознымі «абмыліўся» ды «неразабраўся». Дык няма чаго звужаць справу да «асабістае крыўды Рагулевай». Калі шукаць праўду, дык рабем гэта сумленна.

Цяпер апошняе, але не найменьшае вагі: роля самога Я. Станкевіча ў беларускім нацыянальным руху Заходняе Беларусі.

Прыехаўшы з Прагі ў 1926 г. Я. Станкевіч да ніводнае зь беларускіх групоўкаў не далучыўся. Гэты факт ён тлумачыць проста: ня было да каго далучацца. Ня верыце дык прачытайце яшчэ раз «На бакох „Успамінаў“ В. Рагулі». Вось гэта ўжо дык запраўды манія вялічча. Паводля Я. Станкевіча, бачыце, грамадоўцы рабілі й нацыянальную работу, але былі пракамуністыя. Іншыя, калі верыць яму, нічога не рабілі. Ну пэўне-ж «ня было відаць і работы Рагулевай» («Б-на», № 20 [406].) Грэх было-б яе заўважыць (хіба што яна была-б расейская).

Навет кс. Адам Станкевіч — ідэйны Беларус, добры хрысьціянін, і наагул чалавек высокіх маральных якасьцяў, аб якім і В. Рагуля ў «Успамінах» прыхільна гаворыць як аб Беларусе-незалежніку, ня мае аўтарытэту ў вачох Я. Станкевіча. Бачыце — «... кс. Ад. Станкевіч выбраў абмыльную дарогу ў арганізаваньню працы. Замест знаходзіць людзей із розумам, энэргіяй, воляю, ён падбіраў супрацаўнёў бяз гэтых якасьцяў...» (тамсама) і таму Я. Станкевіч, як чалавек, пэўна, абдораны ўсімі гэтымі якасьцямі з кс. Адамам разыйшоўся.

У передвыбарчай кампаніі замест уліцца ў нацыянальную групоўку (калі ўжо не ў грамадоўскую) Я. Станкевіч складае сваю палянафільскую лісту й гэтым разьбівае беларускія галасы на выбарах. Хочучы сёе-тое перахапіць і з грамадоўскіх галасоў, лісту сваю Я. Станкевіч падмацоўвае грамадоўцам Валынцом, які, прайшоўшы ў сойм, пакідае Я. Станкевіча і далучаецца да «Змаганьня».

Вось таму В. Рагуля ўва «Ўспамінах» і ня мае нічога супраць Валынца, бо лічыць ягонае далучэньне да «Змаганьня», якое было ўсё-ж беларускай плыняй, больш сумленным за Я. Станкевічава палянафільства.

Той факт, што ў выбарах 1928 г. былыя грамадоўцы аддаюць свае галасы не-грамадоўцу В. Рагулю (але не палянафілам), сьветчыць аб тым, што навет пры зьмене ў ідэалягічным настаўленьні беларускіх масаў В. Рагуля, дзякуючы сваім індывідуальным якасьцям захаваў папулярнасьць у народзе. Я. Станкевіч кажа, што матар'яльнае карысьці з паславаньня ня меў, але хвальварак, нябось, у Ашмяншчыне купіў.

На закід В. Рагулі, што «Я. Станкевіч застаўся дзікім і не ўвайшоў ні ў адну беларускую групоўку.» («Успаміны» б. 89.) Я. Станкевіч адказвае дзіўна. Выглядае, што паколькі «Арганістыя, паслушныя кс. Ад. Станкевічу да выбараў, перасталі яго слухацца, калі сталіся самастойнымі па выбарах», дык яму — Я. Станкевічу, як той казаў, сам Бог вялеў тое самае зрабіць.

У сойме, замест сесьці, як Беларус зь беларускімі пасламі, Я. Станкевіч прыладзіўся ў радох польскае санацыі BBWR („Bezpartyjny Blok Współpracy z Rządem“). Гэткае палажэньне вельмі выгаднае таму, хто, ня хочучы падпарадкавацца дысцыпліне свае нацыянальнае групы, мае замер гандляваць сваім голасам.

Дарэчы — ў № 34 (316) «Бацькаўшчыны» з 19-га жніўня 1956 г. Я. Станкевіч, пералічваючы паслоў «Змаганьня», не ўспамінае Крынчыка, але затое залічвае да змаганцаў нейкага Верамея. Вось-жа і тут Я. Станкевічу дазволена блытаць. Ніякага Верамея ніколі ня было паслом ад беларускага народу. Хіба ў радох BBWR, дзе сядзеў Я. Станкевіч, бо там было некалькі янычараў беларускага паходжаньня зь якіх я двух знаў — гэта спад Нясьвіжа Чарноцкі (ці Чарнецкі) і зь Лідчыны — Шчэрба.

Я. Станкевіч цьвердзіць, што гэта ён, а не Ф. Ярэміч правёў у сойме асыгнаваньне на будову будынку Навагрудзкае Беларускае Гімназіі. Ён мусіць забыўся, што справы на пленум сойму ставіць адпаведная камісія. Як «дзікі» ён ня мог належаць да камісіі, бо туды клюбы дэлегуюць прадстаўнікоў. У найлепшым выпадку Я. Станкевіч мог у прамове падтрымаць прапанову (хоць я гэтага не прыпамінаю сабе). Асыгнаваньне правёў Ф. Ярэміч, бо ён меў закулісныя сувязі з эндэкамі й моцную падтрымку ўкраінскіх паслоў, якіх было 44.

Я Станкевіч, які вінаваціць усіх у бязьдзеяньні, за час ад 1930 да 1939 г. можа пахваліцца ўсяго толькі заснаваньнем Беларускага Гаспадарскага Зьвязу (чатыры беларускія кнігарні). Ці не замала, як на такога энэргічнага дзеяча?

У польскім паходзе супраць усяго беларускага 2. 12. 1936 г. было закрыта Таварыства Беларускай Школы, 4. 12. 1936 г. Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, 20. 8. 1937 г. Саюз Беларускіх Настаўнікаў і навет палянафільскае Таварыства Беларускае Асьветы, а 16. 4. 1938 г. Беларускі Гаспадарскі Зьвяз» (Я. Найдзюк, «Беларусь учора і сяньня», бач. 202). Амаль 9 месяцаў даўжэй існаваў Зьвяз Я. Станкевіча за Таварыства Беларускае Асьветы Астроўскага-Луцкевіча. Відаць ня шмат перашкаджаў ён Палякам, калі цярпелі яны яго так доўга.

На гэтым можна і скончыць мой адказ Я. Станкевічу на ягоную нясумленную крытыку «Успамінаў» сьв. пам. Васіля Рагулі.

**А. Стагановіч**

# „Два трыльёны“ і „Майскае неба“

(З радыёвай хвалі «Вызваленьня»

Хоць над нашаю галавой цяпер ужо няма майскага неба — месяц май праміnуў і на нас пазірае з вышыні жнівенскае неба, усё-ж цікава прыпомніць «Майскае неба» беларускага пісьменьніка Анатоля Вялюгіна. «Майскае неба» Вялюгіна — гэта як-бы нейкі мастацкі абразок, адмыслова напісаны для дзяцей школьнага ўзросту і зьмешчаны ў газэце «Піянэр Беларусі». У гэным абразку аўтар лірычна гаворыць пра лёс двух хлопчыкаў — савецкага хлопчыка і хлопчыка з Чыкага.

Сама па сабе тэма цікавая, але як яе разьвівае пісьменьнік Вялюгін — хіба гэта будзе цікава таксама і для вас. Ды ўсё-ткі перш, чым перайсьці да высьвятленьня лёсу двух хлопчыкаў — савецкага і чыкаскага — нам хочацца спыніцца на гэтак званых «двух трыльёнах», аб якіх гаворыць той-жа самы «Піянэр Беларусі». І ня проста гаворыць, не матэматыкай займаецца, а хоча скарыстаць гэтыя «трыльёны», як прыкалад для выхаваньня моладзі.

Зьвяртаючыся да піянэраў, газэта піша: «Большасьць з вас ужо цяпер марыць аб паступленьні ў камсамол. А стаць камсамольцам — гэта значыць стаць адважным чалавекам, які не баіцца ніякіх цяжкасьцяў, адданы камуністычнай партыі, па закліку свайго сэрца ідзе туды, дзе больш за ўсё патрэбны малады розум і маладыя рукі». (Зьвярнеце болей увагі тут на «маладыя рукі»). «Восеньню гэтага году камсамолу споўніцца 40 год. Рыхтуючы сябе ў ягоныя рады, трэба ведаць яго гісторыю.

І «Піянэр Беларусі» пачынае выкладаць «рэбятам» гісторыю «двух трыльёнаў»: «гітлераўскай Германіяй было разбурана 1710 гарадоў, 70 тысяч сёлаў і вёсак, звыш 6 мільёнаў будынкаў, каля 32 тысячаў прамысловых прадпрыемстваў, усяго стратаў на 2 трыльёны 569 мільярдаў рублёў». Пералічана і вылічана ўсё, як бачыце. «Ня кажны з вас, навучае газэта, можа правільна напісаць гэты лік». Пэўна-ж што так. Вялікая, страшная лічба, астранамічная. Толькі «Піянэр Беларусі» не сказаў, **што** яшчэ хаваецца за гэтай цяжкой лічбай. «Піянэр Беларусі», гэны цэнтральны ворган камсамолу і савету піянэрскай арганізацыі, і ня мог сказаць сваім «рэбятам» усяе праўды, якая хаваецца за «двума трыльёнамі»: у «рэбят» пакаціліся-б горкія сьлёзы, тыя трыльёны загарэліся-б у іхніх сэрцах пякучай ранай і ажылі-б, там паўсталі-б у іх мільёны забітых на вайне бацькоў, пра якіх нічога ім ня хочуць сказаць. Гэта ў страту, відаць, не ўваходзіць, гэтай лічбы няма, гэта ня гісторыя. Людзі не такія дарагія, як рублі. Пра іх піянэры не павінны нічога ведаць, піянэрскія маладыя рукі толькі патрэбны.

Навошта-ж тады Вялюгін у сваім «Майскім небе» пралівае сьлёзы па хлопчыку з Чыкага?

«Ён жыве ў далёкім горадзе Чыкага. І гэты хлопчык баіцца сіняга майскага неба. Дзень і ноч там хрыпіць радыё і грыміць рэактыўнае неба: вадародныя бомбы... ракетныя базы... вайна... Хлопчык, баючыся глянуць у майскі блакіт, гаворыць да свае маці:

— Мама, паедзем туды, дзе неба няма.

Не, ня варты нічога турботы Вялюгіна аб чыкаскім хлопчыку — гэтым маленькім чалавеку — калі чалавек для Валюгіна — гэта нешта такое, пра **што** можна не ўспамінаць, што не адносіцца да гісторыі, што не ўваходзіць навет у лічбу.

Майскае неба вялюгіных, пад якім прыходзіцца жыць савецкаму хлопчыку, грыміць ня толькі вадародной бомбай, а і хлусьнёй, атручаны якой, савецкі хлопчык і сапраўды можа не пабачыць блакіту неба. **С.**

ларусі, як у Вільні, Кейданах, Слуцку, Біржах, Нясьвежы, Семятычах, Берасьці, Шыдлове ды Заблудаве. Сярод іх найслаўнейшай сталася Кальвінская Акадэмія ў Вільні, што паўстала ў 1539 г. Яе заснавальнікам быў Абрам Кульва, а знамянітай тэалягічнай славай быў Андрэй Валян. Галоўным апякуном Кальвінскай Акадэміі лічыўся Радзівіл Чорны, прызначыўшы на яе ўтрыманьне багатае забясьпечаньне. Пасьля сьмерці Радзівіла школа гэтая пачала хіліцца да заняпаду, аб чым ніжэй наша гутарка. Ад 1563 г. зьявіліся былі яшчэ арыянцкія школы ў Вільні ды іншых мясцовасьцях.

Як бачым, у сярэдзіне 16 веку Беларусь пакрылася даволі густой сеткай сярэдніх і вышэйшых школаў, прычым Вільня, як сталіца гаспадарства, сталася галоўным асяродкам навуковага руху.

Разьвіцьцё рэфармацыі ў Беларусі сярод каталіцкага й праваслаўнага насельніцтва выклікала супрацьдзеяньне. Такой сілай у тым часе быў закон «Таварыства Езуса», або, як паўсюдна ведамы, закон езуітаў. Першыя крокі дзеля пасяленьня езуітаў у Вільні былі зробленыя Віленскім біскупам Валерым Пратасэвічам і Жыгімонтам Аўгустам, каралём і вялікім князем, у 1565 г. Тады Жыгімонт Аўгуст перадаў на Калегію й Акадэмію свой палац у Вільні й прасіў генэрала езуітаў Ляйнэза «каб прыслаў у Вільню здольных прафэсараў тэалёгіі, філязофіі, матэматыкі і іншых даступных навукаў» (Станіслаў Залускі, Езуіты ў Польшчы, Кракаў 1908, 10).

Аднак у 1565 г. не ўдалося ажыцьцявіць задуманага пляну. Галоўнай перашкодай была вайна з Масквой. Новыя стараньні былі праведзеныя тым-жа Віленскім біскупам В. Пратасэвічам чатыры гады пазьней, у 1569 г. Тады правінцыянал езуітаў у Брунсбэргу (Нямеччына) згадзіўся паслаць у Вільню двух айцоў — Бальтазара Гаставінуса й Юрага Фрыза (Немцы) ды двух братоў. Гэтыя першыя езуіты прыбылі ў Вільню ў канцы 1569 г. пад вайсковай аховай (дзеля вялікага пратэстанцкага засільля ў Вільні) ды занялі прызначаныя езуітам будынкі.

2 травеня 1570 г. прыехалі з Пултуска (Польшча) першыя прафэсары з Станіславам Варшавіцкім на чале, а 8 травеня т, г. адбылося адкрыцьцё езуіцкай школы ў прысутнасьці Віленскага біскупа й Капітулы. Спачатку ў школе выкладаліся прадметы, зьвязаныя з рыторыкай (граматыка, літаратура, лёгіка, красамоўства, дыдактыка і інш.), але ўжо 10 дзён пазьней (18 травеня 1780), у гадавіну інгрэсу (высвячэньня й пастаўленьня) Віленскага біскупа на катэдру, школа была паднесена да ступені Калегіі ды былі адчынены аддзелы (факультэты): філязофіі й тэалёгіі, апрача існуючай рыторыкі.

Заснавальнікі Віленскай езуіцкай Калегіі адразу забясьпечылі яе так ў матарыяльныя сяродкі, як і ў навуковыя дапаможнікі ды высокаадукаваным прафэсарскім пэрсаналам. Галоўнымі пратэктарамі Калегіі былі кароль і вялікі князь Жыгімонт Аўгуст, Віленскі і Жамойцкі біскупы ды каад'ютар Віленскага біскупа князь Юры Радзівіл. Адной з галоўных патрэбаў Калегіі была арганізацыя бібліятэкі. Ужо ў 1570 г. жамойцкі біскуп Юры ахвяраваў Калегіі ўсю сваю бібліятэку. Яна зьявілася асновай кніжнага фонду, які перайшоў пасьля ў Акадэмію. Нажаль, мы ня маем ніякіх вестак адносна ліку ды прадметнасьці перададзеных кніжак (Міхал Брэнштэйн, Бібліятэка Унівэрсытэцкая ў Вільні да 1833 г., Вільня 1925, I, паполь.)

Другім важным падарункам была бібліятэка Караля й Вялікага Князя Жыгімонта Аўгуста, якую ён перадаў Калегіі 6 травеня 1571 г. Бібліятэка гэтая знаходзілася ў Віленскім замку, і пачынаючы ад 1547 г. на працягу 25 гадоў паступова папялічвалася рознымі каштоўнымі рэчамі (У. Пічэта, Пытаньне аб вышэйшай школе на Беларусі ў мінулым. Працы Бел. Дзярж. Унів. у Менску № 19, 1928).

У часе «патопу» цэнны збор кніжак Жыгімонта Аўгуста быў разабраны рознымі асобамі ды наезьнікамі, і толькі некаторыя кніжкі знойдзеныя ў польскіх, маскоўскіх і швэдзкіх бібліятэках.

Першыя пачаткі навуковай дзейнасьці езуітаў у Вільні ня былі лёгкімі. Зламаць няпрыхільнае настаўленьне пратэстантаў удалося цераз дабрадзейную ды міласэрную працу ў часе страшнага памору ў 1573 г. Тады езуіты выявілі свае высокія хрысьціянскія якасьці, як ахвярнасьць, бескарыснасьць, чуласьць да няшчасных ды высокую духовую культуру. Праявілася таксама вельмі добра й Калегія. Пад умелым кіраўніцтвам моладзь Калегіі сваімі публічнымі дыспутамі, паказамі, выстаўкамі, прадстаўленьнямі, канцэртамі, парадамі (вулічнымі паходамі) і г. д. — няведамымі дасюль у іншых школах рэчамі — зьвярнула ўвагу так баярства, як і мяшчанства, бо-ж уся гэтая дзейнасьць гучэла ў тон рэнэсансу сваім блескам, духовым парывам, і таму была да спадобы тагачаснаму ўзварушанаму заходня-эўрапэйскімі ідэямі грамадзтву.

Сьмерць Жыгімонта Аўгуста ў 1572 г. не дазволіла яму ўстанавіць задуманай Акадэміі ў Вільні. Зрабіў гэта Сьцяпан Баторы. На прапанову Віленскага біскупа Валерага Пратасэвіча й каад'ютара Юрага Радзівіла выдаў ён 7 ліпеня 1578 г. ў Львове першую грамату, у якой Віленскую езуіцкую Калегію падносіў да годнасьці Акадэміі, зраўноўваючы яе ў правох і прывілеях з Кракаўскай Акадэміяй. Іншым лістом зь дня 1 красавіка 1579 г. Сьцяпан Баторы дазваляў Акадэміі свабоднае навучаньне тэалёгіі, філязофіі і сьвецкіх навукаў за выключэньнем мэдыцыны ды права. Адначасова за Акадэміяй прызнавалася поўная аўтаномія, вызваленьне ад судовай і адміністрацыйнай падуладнасьці, а таксама вольнасьць ад данінаў і мытаў. Нараўні з заходня-эўрапэйскімі ўнівэрсытэтамі Акадэмія мела права даваць вучоныя ступені мець выбарную сваю адміністрацыю з Рэктарам і прафэсарскай Калегіяй на чале. Папа Рыгор XIII бульляй 29 кастрычніка 1579 г. зацьвердзіў Віленскую Акадэмію з усімі яе правамі. Урэшце Варшаўскі сойм 1583 г. з свайго боку зацьвердзіў каралеўскія наданьні, а кароль на тым-жа сойме (23 лютага) перадаў Акадэміі гаспадарскі маёнтак Тракелі каля Вільні. Урачыстае адкрыцьцё Акадэміі адбылося на пачатку акадэмічнага 1580 г. Першым рэктарам быў выбраны Пётра Скарга.

Вось гэтая першапачатковая Акадэмія складалася з двух факультэтаў (аддзелаў): філязофіі й тэалёгіі. На першым аддзеле выкладалася: лёгіка, фізыка, мэтафізыка, рыторыка, паэтыка, матэматыка, геаграфія, старыя мовы — гэбрайская, грэцкая й лацінская, а таксама новыя мовы — беларуская, італьянская, гішпанская, нямецкая й польская. На другім аддзеле былі такія прадметы: сьв. Пісьмо, тэалёгія схалястычная, палямічная й маральная, казуістыка, кананічнае права й старыя мовы (И. И. Лаппо, Виленская Академия, 8).

У складзе двух факультэтаў Віленская Акадэмія праіснавала да 1641 г., калі Уладыслаў Ваза 11 кастрычніка 1641 г. выдаў грамату аб праве Акадэміі на адкрыцьцё двух новых факультэтаў: права й мэдыцыны. Аднак недахоп прафэсараў ды навуковых уладжаньняў не даваў магчымасьці на адкрыцьцё мэдыцыны яшчэ на працягу доўгага часу. Практычна ад 1641 г. заіснаваў толькі юрыдычны факультэт. Вялізныя заслугі ў арганізацыі яго палажыў сын славутага канцлера Льва Сапегі — Леў Казімір Сапега. Ён ахвяраваў 12 500 залатых чыстымі грашыма на ўтрыманьне 4 прафэсараў права. Апрача гэтага абяцаўся даваць яшчэ 25 000 зал. ды выплачваць кватэрныя грошы для сьвецкіх прафэсараў (Лаппо, 9).

У далейшым каралі пацьвярджалі граматы Сьцяпана Бато-

# Лістападаўцы

**(З успамінаў)**

### I. Працэс

Лістападаўцы — пяць юнакоў, студэнтаў Агульна-Адукацыйных Курсаў у Слуцку, і іхны настаўнік Юры Лістапад. У сакавіку 1926 году над імі адбыўся адкрыты працэс. Гэты працэс ускалыхнуў і ўсхваляваў увесь край. Лістападаўцаў абвінавачвалі ў тым, да чаго імкнулася ўся нацыя: жыць вольнымі людзьмі ў вольнай Беларусі.

Яшчэ й цяпер аб лістападаўскім працэсе ёсьць два пагляды. Адны думаюць, што гэта была няўдалая спроба бальшавікоў справакаваць і запалохаць беларускае грамадзтва. Другія, што Лістападаўская група запраўды ставіла перад сабою мэту падрыхтовы ўзброенага паўстаньня за вызваленьне й была толькі адным зьвяном падземнае арганізацыі, шырока раськінутай па ўсёй Беларусі.

У 1927 годзе ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце была арыштаваная група на чале зь Міхасём Адзярыхам. Яна таксама складалася зь пяцёх студэнтаў. У тую-ж пару я ведала ў унівэрсытэце аб існаваньні яшчэ аднэй пяцёркі. Да яе належыў мой блізкі сябра М. М. Калі групу Міхася Адзярыхі засудзілі й выслалі, М. М. сярод нас зьбіраў грошы й перасылаў іх высланым хлапцом.

Мімаволі паўстае пытаньне: ці ня былі гэтыя групы ў вадным ланцугу зь Лістападаўцамі? Нажаль, адказу пакуль што няма. У часе-ж працэсу большасьць студэнцкай моладзі, а ў тым ліку й я, былі перакананыя, што працэс — цынічная правакацыя.

5 сакавіка 1926 году — першы дзень працэсу. У гэты дзень шмат студэнтаў, замест таго, каб ісьці на лекцыі, пайшло да Дому Працаўнікоў Асьветы, дзе мусіў распачацца паказальны суд над Лістападаўцамі.

Я прыйшла рана, аднэй із першых, і пасьпела захапіць месца ў пярэдніх радох. Вялікая заля вельмі хутка запоўнілася: не ставала вольных месцаў ні ў партэры, ні на бальконах. Людзі стаялі ў праходах і ўздоўж сьценаў. У залі былі пераважна студэнты Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту й Пэдагагічнага Тэхнікуму. У сярэдніх радох я ўбачыла Янку Купалу й Зьмітрака Бядулю. Былі ў залі й іншыя вядомыя пісьменьнікі, паэты, было шмат прафэсароў і настаўнікаў. «Увесь слаўны Менск прыйшоў бараніць хлапцоў», — падумала я.

На сцэну пад вартай прывялі падсудных і пасадзілі на крэслах з правага боку. Макарэня, Нічыпар Мяцельскі, Мікола Казак, Дзямідовіч, Курбыка. Старэйшаму, Мяцельскаму, — 22 гады, малодшаму, Казаку, — 15. Ня гледзячы на малады век, у кажным руху гэтых юнакоў было шмат стрыманасьці й самавалоданьня, так характэрнага для Беларусаў. Тыповая нашая моладзь: інтэлігентныя, прыемныя твары, спакойны выраз сьмелых адчыненых вачэй.

Добрае ўражаньне адразу зрабіў на нас і Юры Лістапад. Гэта быў ужо сталы чалавек, гадоў трыццацёх. Пазьней, калі суд яго дапытаваў, ягоныя сьмелыя, вельмі часта прасякнутыя адкрытай гіроніяй, адказы на абвінавачаньне рабілі на нас, у залі, найбольшае ўражаньне.

На сцэне зьявіўся суд. Усе ўсталі. Прыглушаны гоман у залі сьціх. Дзяржаўны абаронца й пракурор занялі месцы зь левага боку сцэны. Пасярэдзіне, за вялікім, накрытым чырвоным сукном, сталом разьмясьціліся судзьдзя й прысяжныя.

Працэс пачаўся.

Зь першае хвіліны суда й да апошняй лістападаўцы бараніліся ўпэўнена. У іхных паказаньнях ня было ні спалоху, ні разгубленасьці. Асаблівую сымпатыю выклікаў малы Казак. Невялікі, худзенькі, зь цёмнымі блікучымі вачыма, ён весела ўсьміхаўся да ўсіх у залі й сваімі не па гадох разумнымі рэплікамі, часта вельмі колкімі й войстрымі, весяліў нас.

Памятаю, што публіка ў залі, асабліва студэнты, захоўваліся ня надта ціха: з кажным днём сьмялей і галасьней выказвалі яны свае сымпатыі да падсудных. Міліцыя выводзіла із залі найбольш неспакойных, але гэта дапамагала не на доўга. Дзяўчаты пачалі прыносіць лістападаўцам цыгарэты, ежу. У першым радзе заўсёды сядзела Ядзя П., студэнтка Бел. Пэд. Тэхнікуму, дэманстрацыйна апранутая ў нацыянальны строй. Высокая зграбная дзяўчына. Чорны аксамітны гарсэцік хораша абрысоўваў ейны тонкі стан. «Ядзя, ты — сымбаль беларускага правасудзьдзя», — жартавалі студэнты й праз увесь працэс стараліся, каб месца наперадзе, якраз насупраць судзьдзі, было вольным для яе. Чулася, што ня толькі там, на сцэне, ідзе суд. Судзілі й тыя, што былі ў залі, і яны апраўдвалі.

Доказаў віны лістападаўцаў суд ня меў. Толькі пару нумароў рукапіснага часапісу «Нашае Слова», выдаванага студэнцкім літаратурным гуртком на курсах. Творы Макарэні, Мяцельскага, Дзямідовіча — вершы й апавяданьні, прасякнутыя беларускім патрыятызмам.

«За што-ж судзяць? За адданасьць да бацькаўшчыны? Хіба-ж гэта злачынства?» — абуралася бальшыня прысутных у залі.

Было відаць, што працэс вядзецца паводля загадзя акрэсьленага кірунку. Абвінаваўцы жадалі доказаў падрыхтоўкі ўзброенага паўстаньня, жадалі знайсьці змову із Польшчай, жадалі дывэрсіі й антысавецкай літаратуры.

Яны ня мелі фактаў, але інсцэнізавалі іх. Паставілі двох сьветкаў. Аднаго — перабежчыка з Польшчы, які нат ня ўмеў гаварыць пабеларуску, другога — хлапца-случчака, студэнта Бел. Пэд. Тэхнікуму ў Менску. Сьветчаньні правакацыйныя, прадыктаваныя ГПУ.

Больш за ўсё абуралі нас у тыя дні газэты. Кажны дзень яны друкавалі прабег працэсу, але заўсёды фальшыва. Адказы лістападаўцаў падаваліся абсалютна іншыя. З газэтаў выходзіла, што падсудныя прызнаюцца да віны.

Я не памятаю, колькі дзён цягнуўся працэс. З кажным днём было ўсё цяжэй і цяжэй прабіцца ў залю. У тыя дні студэнты амаль кінулі наведваць лекцыі.

У дзень, калі на суд за сьветку быў выкліканы Якуб Колас, нас некалькі студэнтак, прыйшло ў час, але ўваход быў ужо зачынены. У залі ня было вольных месцаў. Мы стукаліся, прасіліся... Нічога не дапамагала. Тады мы пайшлі да ўваходу, што вёў на сцэну й праз які прывозілі падсудных. Хоць і тут стаяў вартавы, нам аднак пашанцавала. Замест таго, каб ісьці ў залю, мы затрымаліся каля сцэны, чакаючы на лістападаўцаў. Кажная з нас мела штось для перадачы. Калі іх прывезьлі, мы абступілі іх, сьпяшаючыся перадаць ім цыгарэты, яблыкі.

Канваіры раззлаваліся на нас: «Вось зараз усіх вас заарыштуем і пасадзім у халодную», — пагражалі яны. Але мы ня вельмі спалохаліся. Яны самі былі маладыя і, пагражаючы, усьміхаліся. Мы кінуліся ў залю.

Допыт Якуба Коласа стаўся адным із найбольш хвалюючых і драматычных момантаў працэсу. У залі панавала напружаная цішыня, і ціхі голас паэты даходзіў да апошніх радоў. Спакойна адказваў Колас на пытаньні, толькі нязвычайная бледнасьць твару выяўляла ягонае нутраное хваляваньне.

«Знаёмы зь Лістападам... Пазнаў яго на настаўніцкіх курсах у Слуцку... Выдатны настаўнік... Усіх курсантаў было да 150... Аб ніякай падземнай арганізацыі ня чуў...» — гэта тое, што запомнілася зь ягоных адказаў.

Сярод нас было шмат слухачоў Якуба Коласа. Мы яго любілі й страшэнна абураліся за зьдзек над ім.

У сувязі зь Якубам Коласам ізноў дапытвалі Н. Мяцельскага. Ён — высокі, шыракаплечы юнак, зь вялікімі сьветла-сінімі вачыма, якія здавалася, запаўнялі ўвесь ягоны твар, з масай ільняных валасоў, закінутых назад із высокага ілба. На пытаньні ён адказваў вельмі проста.

«Так, знаёмы зь дзядзькам Коласам... Пазнаёміўся зь ім у Менску ў ягоным доме... Гэта было ўлетку 1924 году... Ніхто не пасылаў мяне да яго... Я прачытаў «Новую Зямлю», і мне захацелася пазнаёміцца з паэтам... Прыйшоў у Менск на пяхоту, босы. Яшчэ ўзімку прыйшоў-бы, ды ботаў добрых ня меў... Адрысу дзядзькі Коласа ніхто не даваў... На вуліцы ў людзей пытаўся, ці ня ведаюць, дзе жыве паэта Якуб Колас, так й знайшоў... Начаваў у яго. Каб дзядзька Колас не пакінуў у сябе, дык давялося-б на вуліцы спаць, бо грошай я ня меў, толькі хлеб ды сала на дарогу... Аб чым гаварылі — добра памятаю. Дзядзька Колас чытаў мне свае творы, тлумачыў, як трэба складаць вершы».

Пракурора злавала падкрэсьленая наіўнасьць адказаў Мяцельскага. Ён чырванеў, голас ягоны рабіўся раздражнены й крыклівы. Твар Мяцельскага заставаўся нярухомы, вочы глядзелі ўважліва й праўдзіва.

У той вечар я йшла дахаты разам із студэнтам-случчаком Міколам Т.

— Агідна, што зьдзекуюцца нават над Коласам, — сказала я яму. — На мой погляд, увесь гэты працэс — беспадстаўнае запалохваньне нашае грамады.

— Хто ведае? — запярэчыў мне Мікола. — Паўстаньні ў Беларусі супраць Маскоўшчыны — традыцыя: паўставалі нашыя прадзеды, паўставалі дзяды... — Ён крыху памаўчаў, а потым ціхім голасам закончыў: — Ня так даўно паўставалі й нашыя бацькі.

— Дык пры чым-жа тут Якуб Колас і вучнёўская моладзь? — не згаджалася я.

Мікола ўсьміхнуўся.

— Пры тым, што шчодрая рука дзядзькі Коласа не прамінула закінуць насеньня ў нашую багатую слуцкую глебу.

— З чаго гэта ты бярэш?

— А ты хіба не заўважыла, што й сёньня яму лета 1923 году ўспомнілі. Якуб Колас тады ў Слуцку цэлы месяц пражыў. Удзень чытаў лекцыі на настаўніцкіх курсах, а вечарамі — свае творы. Усю «Новую Зямлю» ад пачатку да канца перачытаў, усе душы нашыя сьвядомыя й несьвядомыя ўскалыхнуў.

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)

# „Векапомныя дні“ Міхася Лынькова

**(Гутарка зь беларускім літаратурным крытыкам Алесем Беразьняком)**

**Пыт.:** Скажэце, калі ласка, сп. Беразьняк, чым вылучаецца раман Лынькова «Векапомныя дні» сярод тэматычна блізкіх яму твораў?

**Адказ:** У літаратуры пра савецкую партызанку, што была створаная й пільнаваная партыйным цэнтрам у часе апошняй вайны на Беларусі, вылучаецца ён хіба сваім памерам, але не выразнасьцю тэмы.

**Пыт.:** Накш кажучы, тут падабенства?

**Адказ:** Падабенства вымушанае прапагандаваньнем афіцыйнае тэзы, якая цьвердзіць, што беларускі народ стаў партызанкаю на абарону бальшавіцкага рэжыму, калі пагражала яму сьмяротная небясьпека.

**Пыт.:** Ці ня ператварае гэта працу пісьменьніка ў ілюстратарства?

**Адказ:** У гэтым адна з галоўных рысаў савецкае літаратуры. Раман якраз і напісаны паводля прынцыпу — як мага больш ілюстрацыяў у выглядзе аднастайных падзеяў і безьлічы такіх самых пэрсанажаў. Гэта зрабіла твор кампазыцыйна сыпкім, празьмеру расьцягнутым, абцяжараным, нудным апісацельствам, часта ў стылі будзённае газэтнае публіцыстыкі, як традыцыйнага прыдатку да абавязкавае тэндэнцыйнасьці.

**Пыт.:** Як выяўляецца яна ў дачыненьні пэрсанажных правадыроў і народу?

**Адказ:** У ідылічнай гармоніі. Тэндэнцыйнасьць дасягае свайго завяршэньня ў падачы імкненьня бальшавіцкіх кіраўнікоў, як галоўных пэрсанажаў, да звароту свае дыктатуры пад выглядам змаганьня народу за зварот савецкае ўлады, як нібы свае свабоды. Дзеля датрыманьня штучна творанае зуладнасьці мінаецца тэрарызаваньне сялянства, што было галоўным спосабам улучаньня яго ў партызанку, ідэялізуецца перадваеннае жыцьцё калгасьнікаў ды наўсуперак рэчаіснасьці ператвараюцца яны на абаронцаў калгасаў у часе вайны.

**Пыт.:** Падобна, што народ трымаецца пісьменьнікам на становішчы энтузыястычнага паслугача партыйнае волі?

**Адказ:** Гэтага патрабуе прапагандовасьць заданьня. Але няроўнасьць пэрсанажаў захоўваецца, бо трэба вылучаць партыйнага кіраўніка за чалавечы ўзор. Ён мусіць мець навет прозьвішча адпаведнае. Гэтае, здавалася-б, драбніцы Лынькоў не дагледзеў у першай частцы раману. Таму ўпаўнаважаны ЦК на галоўнага партызанскага кіраўніка меў прозьвішча Каршуноў. Відаць, узятае для высокае партыйнае асобы прозьвішча ад будзённага драпежнага птаха каршуна можа выклікаць у чытача непажаданую інтэрпрэтацыю, бо каршун застаецца каршуном для ўсіх. У расейскім перакладзе пісьменьніка паправілі. Гэроя назвалі больш «ўзьнёсла» — Сакалоў і ў другой частцы раману ўжо дзеіць Саколіч.

**Пыт.:** Скажэце, калі ласка, час напісаньня першае й другае часткі «Векапомных дзён» быў адменны сваёй вонкавай палітычнай ахварбоўкай. Напэўна яна паклала свой адбітак і на раман?

**Адказ:** Так яно й ёсьць, як сьветчаньне залежнасьці працы савецкага пісьменьніка ад найменшых палітычных павеваў у вышэйшых сфэрах. Першая частка была напісаная за жыцьця Сталіна. Ягоная асоба й выступае ў традыцыйнай паставе абагоўленага правадыра. З другое часткі раману Сталін зьнік, бо так вымагае новы партыйны дыктатар. Але гэта не кранула ўнутранага сьвету пэрсанажаў, як і мае быць пры аўтаматызаваным загадным думаньні й паводзінах.

**Пыт.:** Асабліва на пачатку вайны, калі становішча рэжыму было няпэўным, афіцыйная прапаганда часта апэлявала да нацыянальных пачуцьцяў падсавецкіх народаў. Як рэагавалі на гэта пісьменьнікі?

**Адказ:** Тады ў літаратуры меншых падсавецкіх народаў, а таксама і ў беларускай, пачалі адраджацца раней забароненыя інтанацыі, ахварбаваныя ў нацыянальныя колеры. Прыкладам, Колас заклікаў — «На бітву, браты — Беларусы». Нацыянальны акцэнт і ў Купалавым звароце «Партызаны, партызаны, беларускія сыны!» Ён быў і ў вершы маладога паэты Бялевіча — «А цяпер за волю Беларусі я пайду, дзе б'юцца партызаны». Канстанцыя Буйла гэтак пісала пра Беларусь: «Маёй радзімы абраз чароўны сьніцца мне». У пазьнейшых творах зусім зьнікла згаданае адценьне часу, бо нацыянальныя інтанацыі адразу па вайне былі абвешчаныя за рэцэдывы нацыяналізму, хоць у часе збройнага змаганьня выкарыстоўваліся на прапаганду. У другой частцы «Векапомных дзён» навет не называецца Беларусь, а беларускасьць пэрсанажаў раману вычэрпваецца — прозьвішчамі, месцам асельнасьці ды этнаграфічнай лявоніхай.

**Пыт.:** Выходзіць, што навет часткова дазволенае ў свой час сяньня адкідаецца, як-бы яго й ня было?

**Адказ:** Савецкі пісьменьнік вымушаны пісаць ня так, як было ці ёсьць, а так, як павінна быць, як вымагае таго сёньняшняе афіцыйнае гледзішча. Яно, а ня жыцьцёвая праўда, дыктуе сваю волю пісьменьніку, гвалціць ягонае творчае сумленьне.

---

рага й Уладыслава Вазы. Зрабіў гэта Ян Казімір 9 лютага 1649 г. і Аўгуст II ў 1726 ды 1736 гг.

Што датычыць разьвіцьця бібліятэкі Акадэміі, то як ведаем, яна пераняла кніжны збор Калегіі. У канцы 16 веку бібліятэка Акадэміі павялічылася падарункам вучня гэтай Акадэміі др. Лукаша Краснадэбскага, які ў 1594 г. запісаў ёй свае тэалягічныя кнігі на італьянскай і гішпанскай мовах. Гэты падарунак быў тым больш каштоўны, бо ў канцы 16 і на пачатку 17 ст. ст. за рэктарства Пятра Скаргі многія прафэсары Акадэміі былі чужаніцамі, як гішпанцы, партугальцы, італьянцы і іншыя.

Наступна бібліятэка атрымала цэнныя зборы беларускага кардынала Юрага Радзівіла, які памёр у 1600 г. ды Віленскага суфрагана й біскупа Жамойцкага Мікалая Паца (пам. 1619). У 1629 г. прыбылі зборы Віленскага біскупа Эўстахага Валовіча, а ў 1630 г. пісара польнага В. К. Л. Крыштафа Міколы Сапегі.

Павялічываліся таксама матэрыяльныя сяродкі на бібліятэчныя й навуковыя ўладжаньні. Так 13 верасьня 1623 сакратар В. Княства Андрыян Вярбіцкі перадаў Акадэміі свае маёнткі ў Віленскім ваяводзтве з умовай, каб з прыбыткаў іх 1 000 зал. трацілася на палепшаньне акадэмічнай бібліятэкі (Брэнштэйн, 10).

Такім чынам Віленская Акадэмія да сярэдзіны 17 веку, гэта значыць да часу маскоўскай навалы ў 1654-55 гг. прадстаўлялася, як сьцьвярджае дасьледнік яе Я. Бялінскі (назв. пр. т. III, 509) знамяніта, прафэсараў мела 75 ды студэнтаў 700.

* * *

Маскоўская навала ў 1654-55 гг. (пасьля пераходу Хмяльніцкага) пры падтрымцы жудасных крывавых зьнішчэньняў казацкіх войскаў Залатарэнькі сталася запраўдным «крывавым патопам» Беларусі. Усе чыста беларускія гарады былі разбураны, спалены, а насельніцтва, якое ня пасьпела ўцячы, было «пушчана пад меч». У далейшым швэдзкая інтэрвэнцыя, барацьба беларускіх войскаў кн. Януша Радзівіла ды Паўлы Сапегі з маскоўскай ды швэдзкай акупацыямі, голад, эпідэміі й маскоўскія высяленьні жыхарства ў Расею абязьлюднілі поўнасьцю Беларусь. Загінула тады амаль 3/4 усяго насельніцтва.

Вось як апісвае Г. Масьціцкі (у кнізе «Вільно», Варшава 1924, 21-24) тагачасныя падзеі пры штурме беларускай сталіцы:

> «У пачатках жніўня 1655 г. трыстатысячная армія заняла Літву (чыт. Беларусь), набліжалася сярод пажарышчаў і зьнішчэньняў да Вільні. Вялікі страх агарнуў места. Хто мог, уцякаў у лясы, заграніцу; біскуп з мошчамі сьв. Казіміра ў Каралевец, за ім манахі з цудоўным абразом Маці Божае (Вострабрамскай). Мяшчане рыхтаваліся да абароны пры мескіх брамах, у хатах, у манастырох, цэрквах, касьцёлах і бажніцах. Але не хапала войска й правадыроў. Раніцою 8 жніўня падышоў вораг да сталіцы. Апаясана места заставамі, каб ніхто ня ўцёк, узьнята трывогу, пачаўся штурм. Жудасьць агарнула наймужнейшыя сэрцы. Ніхто не хацеў здавацца, а аб абароне ня было гутаркі. Уварваліся ў места казакі, мігам узялі брамы, цьвярдыні-дамы, касьцёлы, шалёную пачалі разьню. Выцягівалі з памяшканьняў няшчасных, каб сярод расьп'янелай сваволі замучыць іх выдумоўванымі мукамі. Хутка вуліцы былі засьцелены страшна змасакраванымі трупамі, бяз адзеньня, у адной жудаснай масе кінутых у балота, бязкшталтных, аднак яшчэ дрыгаючых апошнімі спазмамі жыцьця... Кажуць, што у тым адным дні зьгінула 25 тысяч людзей».

Віленская Акадэмія, як нацыянальная скарбніца, на падабенства мошчаў сьв. Казіміра й Вобразу Вострабрамскае Маці Божае, была вывезена ў Прусы, у Каралевец. Туды перанесьліся ў бальшыні прафэсары й студэнты. Вывезеныя былі таксама найбольш каштоўныя кніжныя зборы акадэмічнай бібліятэкі. Частка аднак акадэмічнай кніжніцы трапіла ў рукі Швэдаў ды была зьвернена на аснове Аліўскага дагавору.

У 1661 г. Масква прымушаная была пакінуць Вільню ды Беларусь па Дняпро. У спаленую ды абязьлюдненую сталіцу пачалі вяртацца недабіткі. Вярнуліся мошчы сьв. Казіміра, цудоўны абраз Маці Божай Вострабрамскай, вярнулася й Акадэмія. Аднак ўжо аж да канца існаваньня Вялікага Княства Літоўскага, гэта значыць да канца 18 ст. сталіца Беларусі — Вільня ня здолела залечыць нанесеных ранаў. Не змагла зазіяць нанова й Віленская Акадэмія, хоць пачала сваю дзейнасьць зараз пасьля вызваленьня заходнядняпроўскай Беларусі. Абяднелая краіна не змагла згуртаваць у Акадэміі, як раней, найлепшых навуковых сілаў заходняй Эўропы ды вытварыць сваіх кадраў. Аднак ня трэба думаць, што панаваў поўны заняпад. Цяжкасьць заключалася ў тым, што трэба было адбудоўваць усё нанава.

Разграбленая Віленская бібліятэка ўкамплектоўвалася новымі фундацыямі. Перш за ўсё цяпер у яе ўлілася так зв. «бібліятэка Сапегі» — сына славутага канцлера, які яшчэ ў 1644 г. запісаў свае навуковыя цэннасьці Акадэміі. Яна налічвала каля 3 000 назоваў. За Сапегай пайшлі іншыя. У 1677 г. перадаў Акадэміі сваю бібліятэку канцлер Віленскай курыі Казімір Войнаровіч. У 1772 г. перайшла ў акадэмічную бібліятэку кніжніца Віленскага біскупа Казіміра Брастоўскага. Гэта сама зрабіў ягоны наступнік Мацей Язэп Аўкута. У палове 18 ст. браты Казімір і Міхась Вярбіцкія перадалі Акадэміі каля 16 000 залатых на абсталяваньне бібліятэкі, была таксама падараваная камяніца, даходы зь якой (200 зал.) прызначаныя былі на патрэбы бібліятэкі (Брэнштэйн, 17). Дзякуючы гэтым фундацыям Акадэмія зноў сталася галоўным асяродкам вышэйшай асьветы ў Беларусі.

* * *

Кінем цяпер вокам на прафэсарскі склад Акадэміі ды на важнейшыя навуковыя дасягненьні.

На аснове вывучэньняў Растоцкага, Браўна, Прайшофа і іншых Бялінскі (назв. пр. т. III, 16-22, 107-366) называе ў часе між 1579 а 1662 гг. 24 рэктараў і 63 прафэсараў Акадэміі. Паводля краінаў паходжаньня так рэктары, як і прафэсары былі рознай нацыянальнасьці. Гэткае так сказаць «міжнароднае» абліччa Акадэміі было магчымае таму, бо выкладовай мовай яе была **мова лацінская,** мова міжнародная сярэднявечча і навейшых часоў.

Вось-жа паводля краінаў паходжаньня рэктары былі наступныя:

а) **Беларусы:** Паўла Бокша, Адам Брокус, Ян Гружэўскі, Войцях Віюк Каяловіч, Казімір Віюк Каяловіч, Сымон Ніклевіч ды Міхась Гінькевіч.

б) **Выхадцы з Польшчы:** Пётра Скарга, Якуб Вуяк, Станіслаў Влошак, Фрыдэрык Баршч, Сымон Угнеўскі, Ян Вісковец, Войцях Цецішэўскі, Ян Півоцкі ды Ян Рывоцкі.

в) **Немцы:** Леанард Крокер, Піліп Фрузіюс, Мэльхіяр Шмэлінг, Рыгор Гінц і Рыгор Шэнгоф.

г) **Гішпанцы:** Алабанус Гарзіяс, Міхал Ортыз і Бэнэдыкт дэ Соксо.

Харacтво беларускае прыроды

# Летам ля Бярэзіны

Бярэзінскі запаведнік — адзін зь цікавых куткоў беларускай прыроды. Знаходзячыся амаль у цэнтры рэспублікі, ён займае тэрыторыю больш за 67 тысяч гэктараў. Рака Бярэзіна, беручы свой пачатак у Докшыцкім раёне, цячэ на поўдзень маляўнічымі лугамі, зьбіраючы воды із шматлікіх балотных рэчак і раўчукоў, каб зьліцца з магутным Дняпром.

Прыгожыя мурожныя лугі ў пачатку лета! Зьмешаныя хваёва-лісьцевыя лясы зачароўваюць сваім харaством. Бурлівае жыцьцё кіпіць усюды — у лесе, на балоце, лузе. Нейкая сіла так і цягне цяпер на ўлоньне жывой прыроды.

...Калі мы пакідалі дом, сонца сьхілялася да гарызонту. Паступова пачыналі змаўкаць дзённыя галасы. Праз паўгадзіны мы былі ўва ўрочышчы «Сінічана». Ад Бярэзіны цягне асьвяжаючай вільгацяй, па траве коціцца палоскамі туман. На гарызоньце выплыў месяц. Тут мы падумалі пра цёплы начлег і пайшлі ў дубовы гай.

У ім суха, паветра нібы настоена на лясных травах. Лепшага месца й ня трэба шукаць. Падножжа шматвяковага дубу дало нам прытулак. Паклаўшы пад бок бярозавых і яловых галінак, накрыўшыся плашчамі, мы ляглі адпачыць. Аднак заснуць у лесе летам натуралістаму ня так проста.

Над галавой з рэзкім крыкам праляцела чапля. Потым пачуўся нязвычайны роў. Гэта крычыць начная птушка — «вадзяны бык». Дзесьці адклікнуўся другі. Пад Бродамі пачуўся голас трэйцяга. У гушчары пераклікаюцца пугачы, совы, пралятаюць кажаны, шапацяць крыльлямі начныя матылькі, зьвіняць роем камары. У траве, разьдзіраючы горла, бясконца крычаць драчы.

...Спаць доўга не давялося, бо надышла раніца, і нас разбудзіла галасістае «ку-ку». Зязюля прачнулася на сьвітаньні й вылецела на ранішні сьнеданак.

Зязюлі няма аб чым клапаціцца, ня трэба думаць пра гняздо. Птушанят выгадуюць ёй мачыхі — пеначкі, заранкі, валасянкі й інш. Яна-ж заўсёды знаходзіцца ў адзіноце і, гуляючы па лясных прасторах, плача, як гавораць у народзе, па страчанаму ў далёкія часы мацярынству. Мы прыслухоўваемся да пераліўнага сьпеву жаўранкаў, шчэбету берагавых ластавак, пакідаем месца нашай стаянкі і з вудамі выходзім да ракі.

...Узьнімаюцца апошнія косы малочнага туману, як-бы імкнучыся дагнаць паплыўшыя ўдалячыць воблакі. Калі поўнасьцяй зьнік туман, былі ўжо добра відаць абодва рачныя берагі, пакрытыя вярбой, сітнікам, асакой і лазьнякамі. У зарасьніку трысьця знаходзім невялічкую лодку, якую пакінуў і лоўка замаскаваў зелянінай невядомы рыбалоў. У лодцы аказаліся вясло й бяроставы коўшык для адліваньня вады. Я і сябар Агей ня ўтрымліваемся ад спакусы праехаць па вадзе. Асьцярожна спускаем лодку, адштурхоўваемся ад берагу й ціха вяслуем. Лодка плыве затокай сярод трысьця, лопуху, шыракалістых белых і жоўтых гарлачыкаў. Бясшумна плывём да чародкі качак, што, апусьціўшы галовы ў ваду, кормяцца ўсялякімі сьлімакамі. На варце знаходзіўся й пільна азіраўся па бакох стары спрактыкаваны качар. Калі ён адчуў небясьпеку, адразу-ж крыкам аб'явіў трывожнае становішча. Усе качкі з крыкам і гіканьнем, як стрэлы, пушчаныя па паверхні вады, зьніклі ў берагавых зарасьніках.

А вось, пацяжэўшы ад зьедзеных жаб, грэецца на сонцы бусел, перабірае сваё пер'е — відаць, прыводзіць у парадак фарсісты «кафтан».

Спалоханыя качкі прымусілі й яго аглядзецца, спыніць занятак. Бусел робіць некалькі разваліcтых крокаў, узмахвае крыльлямі і ўзьлятае да гнязда, якое шапкаю чарнее на верхавіне старога дубу.

Плывучы далей, мы ўбачылі ў купістым беразе невялікую шчыліну — уваход у нару бабра.

Бабёр — адзін з найбольш каштоўных грызуноў, якія захаваліся ў рэдкіх месцах. У нас бабры водзяцца па Бярэзіне, яе прытоках і на іншых вадаёмах рэспублікі. На Бярэзіне буры рачны бабёр лічыць сябе старажылам. Ад урочышча «Сінічана» й аж да возера Палік, што на Барысаўшчыне, на кажным кілямэтры воднай стужкі сустракаюцца норы й хаткі бабра.

У Бягомельскім раёне бабры жывуць з даўных часоў. Кліматычныя ўмовы, наяўнасьць неабходнай колькасьці вады, невычарпальная крыніца патрэбнага корму спрыяюць размнажэньню на волі баброў.

Далейшую прагулку на лодцы наважылі спыніць. «Судна» паставілі на ранейшае месца, а самі пайшлі лавіць рыбу на ўрочышчы «Барсукі».

«Барсукі»! Калі й кім дадзена такая назва гэтай дзялянцы сенажаці й сумежнаму абтоку? Як расказваюць старажылы, а ім таксама перадалі бацькі аб гэтым, тут калісьці запраўды знаходзілася мноства барсуковых нор. Мы із сябрам дамовіліся, што на зваротным шляху абавязкова пойдзем праз балота й праверым былыя норы.

...Дыхае цёплы паўднёвы ветрык. Воддаль адзін ад аднаго мы заселі рыбачыць. Булькае пад кустом вада, на хвалях скача паплавок.

Колькі рыбы ў Бярэзіне! Глядзіш у ваду й бачыш, як часам, пакратваючы паплаўкамі, праплываюць язі, ляшчы, месцам бухне чорны вусаты «гаспадар» ракі — сом, як шчупак ці вокунь ганяюцца за плоткай або верхаводкай.

Апоўдні мы былі ўжо на абтоку «Барсукі». Нас з усіх бакоў абступілі бярозы, дубы, вольхі й маладыя кусты лазьняку.

На «Барсуках» мы запраўды знайшлі некалькі даўніх нор, дзе жылі зьвяркі. Яны зарасьлі крапівой, быльнягом і аказаліся пустымі.

Шмат цікавага й займальнага мы ўбачылі за час свайго падарожжа.

**Ул. Бутараў**

(«Зьвязда», 16. 7. 58)

# Новае зь біяграфіі Дуніна-Марцінкевіча

**(Заканчэньне з 7-ай бачыны)**

ўва ўзброенае паўстаньне, В. Дунін-Марцінкевіч ня быў простым сузіральнікам рэвалюцыйных падзеяў у краіне, а меў беспасярэдняе дачыненьне да іх, імкнуўся дапамагчы народу ў яго змаганьні за лепшую долю.

Актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху 1863 году прыймала дачка В. Дуніна-Марцінкевіча Каміля Марцінкевіч. З выяўленых намі новых архіўных матар'ялаў аб паўстаньні 1863 году вельмі цікавым зьяўляецца данясеньне віленскага ваеннага, ковенскага, горадзенскага й менскага генэрал-губэрнатара Мураўёва ад 24 жніўня 1863 году за № 2613 шэфу жандараў Далгарукаву адносна дачкі Дуніна-Марцінкевіча.

«Дваранка Менскага павету Каміля Марцінкевіч, — гаворыцца ў гэтым данясеньні, — із самага пачатку ўзьнікшых у краі палітычных непарадкаў прыймала ўдзел ува ўсіх дэманстрацыях і знаходзілася заўсёды на чале кіраўнікоў рэвалюцыйнага руху. Пад уплывам пачуцьцяў няпрымірымай нянавісьці да ўраду ... яна ўжывала ўсе намаганьні, каб распаўсюдзіць паміж саслоўем дваран польскага паходжаньня тую-ж самую нянавісьць і лютасьць, якімі сама была прасякнута. Нарэшце, калі ў пачатку гэтага году было выяўлена, што азначаная Каміля Марцінкевіч заснавала ў м. Гарадку памешчыка Хмары вучылішча для сялянскіх дзяцей з тым, каб распаўсюдзіць паміж простым народам шкодныя рэвалюцыйныя ідэі, і што ў тым-жа мястэчку яна прапанавала аднаму радавому Новаіндгермандзкага пяхотнага палку значныя грошы з тым, каб ён набыў для яе зброю і іншыя прыналежнасьці для мяцежу, тады па прадстаўленьню начальніка Менскай губерні прадмесьнік мой распарадзіўся аб арышце Марцінкевіч, што й было прыведзена ў выкананьне.

... прысутнасьць у краі такога роду асоб, як Каміля Марцінкевіч, будзе мець для грамадзтва шкодныя вынікі, бо яна ня праміне выкарыстаць усякі зручны выпадак, каб падтрымліваць смуты й непарадкі ды супрацьдзейнічаць добрым мерапрыемствам Ураду, таму я прызнаў неабходным прапанаваць начальніку Менскай губерні выслаць Камілю Марцінкевіч на жыхарства пад строгім паліцэйскім наглядам у Пермскую губэрню, пра што абавязкам лічу давесьці да ведама Вашага Сіяцельства.

Генэрал ад інфантэрыі Мураўёў».

Зь іншых дакумантаў відаць, што Каміля Марцінкевіч была выслана ў Пермскую губерню, дзе выйшла замуж за салікамскага павятовага лекара Асіповіча... Просьба Асіповіча ў 1865 годзе зьняць зь ягонай жонкі паліцэйскі нагляд ня была задаволена.

Новыя факты зь біяграфіі В. Дуніна-Марцінкевіча — каштоўны матар'ял для дасьледнікаў літаратуры ў справе больш грунтоўнага вывучэньня літаратурнай і грамадзкай дзейнасьці першага беларускага пісьменьніка-прафэсіянала XIX стагодзьдзя.

**А. Семяновіч**



# Зь беларускага жыцьця

**БЕЛАРУСКАЯ КУПАЛЬСКАЯ СЦЭНКА ПА ТЭЛЕВІЗІІ**

Канадыйская дзяржаўная радыястанцыя СіБіСі ладзіць кажную пятніцу ўвечары нацыянальныя паўгадзінныя радыяпраграмы музыкі й песьняў амаль усіх нацыянальнасьцяў, што пражываюць у Канадзе. Прыгэтым даюцца таксама й камэнтары ў ангельскай мове. Праграмы гэтыя чутны ўва ўсёй Канадзе, а таксама і ўва ўсіх суседніх штатах ЗША.

Ад 22 ліпеня г. г. Канадыйская дзяржаўная тэлевізія пачала перадаваць таксама паўгадзінныя нацыянальныя праграмы народных скокаў розных нацыянальных групаў. Гэтай праграмай кіруе, як і радыёвай, ведамы ўсім сп. І. Раманаў (Канадыец украінскага паходжаньня). Тэлевізійныя праграмы надаюцца штоаўторку а 10 гадзіне вечарам і бачныя таксама ня толькі ў Канадзе, але і ў сумежных штатах ЗША.

У такой, другой па чарзе, праграме ў аўторак 29 ліпеня сярод сцэнак каўкаскіх, галяндзкай, мэксыканскай, была паказана таксама й беларуская купальская сцэнка, у якой прыняў удзел сам сп. І. Раманаў, добра выконваючы ролю дзяцюка, памастацку граючы на мандаліне «Мікітку» й «Крыжачка», прыгожа скачучы сярод дзяўчат на рэчцы, што былі моцна занятыя пусканьнем на ваду купальскіх вянкоў. У вочы кідалася таксама й характэрная беларуская дэкарацыя.

У далейшых праграмах паабяцана шмат больш беларускага.

Пры гэтай нагодзе паўторна заклікаем нашых суродзічаў, як Канады, так і паўночных штатаў ЗША пісаць як найбольш лістоў у адрас гэтых праграмаў (асабліва радыёвых) ды дамагацца часьцей такіх праграмаў. Чым больш нас будзе пісаць, тым больш можна дасягнуць, бо мы гэтым пакажам, што Беларусаў тут куды больш, чымся гэта думаюць Канадыйцы.

Пішэце на наступны адрас:
CBC, 354 Jarvis St.,
Toronto, Ont.

**Тарoнтавец**

**БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ НА ПРЫНЯЦЬЦІ ПРЫНЦЭСЫ МАРГАРЭТЫ Ў ТАРОНТА**

Вялікай падзеяй для даміньёну Канады гэтымі днямі была візыта Прынцэсы Маргарэты, якая пачалася з наведаньня правінцыі Брытанскай Калюмбіі.

Таронта Прынцэса Маргарэта наведала 30 і 31 ліпеня. У чацьвер 31 ліпеня а паўдні Прынцэса была прынятая мэрам гораду Таронта сп. Н. Філіпсам перад будынкам гарадзкой ратушы, дзе быў ёй уручаны афіцыяльны падарунак гораду.

Прыняцьце Прынцэсы Маргарэты адбылося на адмысловай трыбуне, куды былі запрошаныя таксама прадстаўнікі ад больш чымся 30 этнічных групаў Таронта.

Ад Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе прысутнічалі сп-ня Н. Слаўко й сп. А. Маркевіч (у беларускай народнай вопратцы).

Таронцкая газэта „The Telegram“ з 31 ліпеня на другой бачыне зьмясьціла заметку, дзе між іншага, гаворыцца, што прадстаўнікі Кітайцаў і Беларусаў зьявіліся ў сваіх нацыянальных строях.

**Тарoнтавец**

# З жыцьця нашых суродзічаў пад Польшчай

**(Паводля «Нівы»)**

20 чэрвеня 1958 г. у Шчэціне сябры мясцовага гуртка Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ладзілі літаратурны вечар, прысьвечаны 76-й гадавіне нараджаньня й 16-й гадавіне сьмерці Янкі Купалы. На вечары прысутнічалі прадстаўнікі ад Украінцаў.

*

Сябры Варшаўскага аддзелу БГ-КТ зарганізавалі дыскусыйны клюб, дзе даюцца рэфэраты пераважна на беларускую тэматыку, пасьля чаго праводзяцца дыскусіі. Першым рэфэратам быў «Кароткі нарыс гісторыі беларускага народу», які выклікаў вялікае зацікаўленьне й ажыўленую дыскусію. Чарговым пытаньнем, якое дыскутавалася ў клюбе была праблема мадэрнага мастацтва. Найбольшае аднак зацікаўленьне выклікала дыскусія на тэму беларускага вызвольнага руху ў передваенай Польшчы. Тут разглядалася дзейнасьць КПЗБ, Грамады, Таварыства Беларускай Школы. У гэтай дыскусіі бралі ўдзел таксама ўдзельнікі беларускай нацыянальна-грамадзкай працы ў былой Заходняй Беларусі.

*

Пачынаючы з № 26 (122) «Ніва» ўвяла «Літаратурную старонку», у якой маюць друкавацца творы беларускіх паэтаў, пісьменьнікаў ды працаўнікоў мастацтва, што пражываюць пад Польшчай. Пакуль што «Літаратурная старонка» мае зьяўляцца раз у месяц.

*

Праўленьне Беларускага літаратурнага аб'еднаньня ў Беластоку заплянавала наладзіць 3-дзённы сэмінар для пачынаючых літаратараў. На перашкодзе да ажыцьцяўленьня гэтага стаіць нястача грошай, хаця, як піша «Ніва» (№ 26/122), ёсьць надзеі, што гэтая перашкода будзе пераможана.

У тымсамым нумары газэты Галоўны рэдактар яе Г. Валкавыцкі знаёміць зь беларускімі пісьменьнікамі Беласточчыны. Рэдактар заклікае пісьменьнікаў «выплываць на шырэйшыя воды». Ён піша: «Бацькаўшчына, прырода, мова! Добра. Будзем пісаць. Але адкінем дэкляратыўнасьць, выкінем із свайго слоўніка «люблю», а любоў сваю пакажам у мастацкіх вобразах, у пошуках паэтычных дэталяў, у любоўных адносінах да роднага слова і ўсё-ж-такі пашырым круг тэмаў, выплывем з магічнага трыкутніка на шырэйшыя воды».

*

30 чэрвеня ў Беластоку адбыўся агульны сход мясцовага гуртка БГ-КТ, на якім быў утвораны Гарадзкі Аддзел таварыства.

*Фэльетон*

# *Хрушчоў наступае на хвост*

Прамова Мікіты Хрушчова на кіраўскім заводзе ў Ленінградзе выклікала жывы водгук і ў калгасе «Пустацьвет», а таксама і ў сям'і Рыгора Канцавога.

Прыбягае Ганулья з кароўніка і ўжо з парогу крычыць Рыгору:

ГАНУЛЯ (з уздымам): Ты чуў? Урэшце, наш Мікіта адчыкрыжыў разумную прамову!..

РЫГОР (флегматычна): Пра кукурузу ці пра трусоў?

ГАНУЛЯ: Якраз ні пра адно, ані пра другое. Ён выступаў супраць п'янства і п'яніцаў. Ён сказаў, што п'янства — «перажытак мінулага», што ён п'янай хэўры наступіць чаравікам на хвост...

РЫГОР (таксама флегматычна): Супакойся Ганулья, маўляў той, «не пары гарачкі»... Ты ня ведаеш, ці наш Мікіта гаварыў гэта цьвярозы, ці ўжо сьцябануўшы тройчы за руб дваццаць пярцоўкі?

ГАНУЛЯ: А я скуль ведаю? Я-ж зь ім не стаяла і ня чула, чым ён пахнуў. Я толькі ведаю, што ён разумна сказаў: На хвост п'яніцам наступаць! На хвост! На хвост!..

РЫГОР: Супакойся, Ганулья! Няма ніякай прычыны да цялячых захапленьняў. Па-першае наш карыфэйны Мікіта занадта-ж гутарлівы. Чаго ён ужо нам не гаварыў, чаго не абяцаў?.. А, падругое, як кажа прыказка, «рыба пахне ад галавы». Вось-жа нікому не сакрэт, што перадусім сам Хрушчоў мае выразныя ўхілы ў кірунку бутэлькі. Тут толькі адна розьніца паміж Мікітам з калгасу «Пустацьвет» і Мікітам з Масквы, што нашага Мікіту ці Гаўрылу, калі ён наліжацца самагонкі, чуе толькі калгас «Пустацьвет», тады як Мікіту Хрушчова чуе паўсьвету, бо Хрушчову падстаўляюць такія рагаціны, праз якія ён гаворыць у радзіва...

Прыгадай сабе, як нядаўна, вярнуўшыся з Вуторшчыны, Мікіта п'яненькі ў дошку выступаў у Маскве. Дзьве гадзіны мы слухалі і няшмат маглі ўцяміць, так ён мяшаў гарох з кукурузай. Адно толькі было бойка сказана, гэта што «мы вам гаспада-капіталісты пакажам нашу расейскую кузькіну мацъ», ды што савецкі ўрад «выцягнуў братэрскую руку вугорскаму народу». А як ведама, да каго Масква выцягне братэрскую руку — той адразу-ж выцягне ногі.

Вось-жа «расейскай кузькінай мамай» Мікіта нікога не напалохаў, а людзей насьмяшыў. Бо як-жа так, — быццамбы бегае за вялікага карыфэя і праваdыра, а налізваецца як шавец? Таму ты, Ганулья, зашмат ня цешся, што Хрушчоў абяцае п'яніцам наступіць чаравікам на хвост, бо сам ён, як піў, так і будзе далей піць. А ўжо напэўна што п'яны Мікіта Хрушчоў без параўнаньня можа зрабіць больш шкоды ў Савецкім Саюзе, чымся п'яны Мікіта ці Гаўрыла ў калгасе «Пустацьвет».

ГАНУЛЯ: Можа ты, Рыгор, прыпадкова маеш слушнасьць. Можа я зарана ўсьцешылася... Зашмат гэтых рахвормаў, а карысьці — ледзь угрызьці...

Эх, доля наша калгасная!.. **пс**

**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47 Bd. de Bezons, Sartrouville (S. et O.).
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).


БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**